# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1972
Студзень-
Люты

Год XX
№ 1 (129)

ЗЬМЕСТ:

## ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1972 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

### ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

**У Задзіночаных Штатах:**

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

**У Канадзе:**

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

**У Нямеччыне:**

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

**УВАГА:** Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XX** **January—February** **№ 1 (129)**
**1972**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XX | СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ | № 1 (129)

# 25-годзьдзе ЗБВБ

Другая Сусьветная вайна мела вялізарны ўплыў на Беларусь і на беларусаў. Гэтая вайна прычыніла страшэнную руіну: спусташэньне і разбурэньне нашых гарадоў і вёсак зьнішчыла масу людзей дый вялікі лік насельніцтва быў выселены, забраны ў палон, разагнаны ці змушаны быў ратавацца ўцёкамі. Калі ўлічыць, што Беларусь у І-ую вайну была арэнай баёў і доўгі час перарэзаная фронтамі нямецка-расейскім, а пасьля польска-бальшавіцкім дый ад 1921 да 1941 падзеленая паміж Польшчай і Расеяй, а ў II-ой вайне таксама пад фронтамі і падзелена ворагамі, якія яе ўзаемна вынішчалі, а змагаліся найбольшыя дзяржавы сьвету, дый верхаводамі іх былі найгоршыя тыраны сьвету — Гітлер і Сталін, — дык у гэтай сусьветнай катастрофе Беларусь была архярай прызначанай да поўнага зьнішчэньня!

Аднак нельга не адцеміць і некаторых пазытыўных зьявішчаў: пасьля апошняй вайны тэрыторыя Беларусі павялічылася блізу ўдвая і значна паглыбілася нацыянальная сьведамасьць, асабліва сярод маладога пакаленьня.

У выніку вайны тысячы беларусаў апынуліся й розных чужых краінах. Усіх іх называюць палітычнымі эмігрантамі — уцекачамі, хоць шматлікія з іх ня былі замешаныя ў ніякую палітыку, а толькі дзеля няпрыязных палітычных умоваў былі змушаныя пакінуць бацькаўшчыну.

У Вялікай Брытаніі знайшлося каля 15 тысяч беларусаў, пераважна былых вайсковых розных арміяў і прывезеных сюды перасяленцаў з Нямеччыны.

Беларусы зьявіліся сюды, як тыя «Рабінзоны»: яны тут нікога не зналі дый і іх ня знаў ніхто. А нетрапная назва «Белёрашша» і «Белёрашшан» зусім не памагала брытыйцам зразумець, хто мы такія. А некаторыя беларусы былі ў дакумэнтах запісаныя палякамі (каталікі), расейцамі (праваслаўныя), або нават латышамі ці летувісамі!

Урэшце тэгэранскі і ялтанскі дагаворы Савецкага ўраду з Брытаніяй і з Амэрыкай прадбачвалі прымусовую рэпатрыяцыю былых грамадзян Савецкага Саюзу. Таму кожны, як могучы, уцякаў якнайдалей ад савецкага насілля і гвалту!

Не зважаючы на ўсялякія цяжкасьці, беларускія патрыёты, якія заўсёды мелі з сабою сувязь, пачалі арганізаваць на чужыне сваё грамадзка-культурна-рэлігійнае жыцьцё.

Кіпячая дзейнасьць асабліва праяўляецца ў гадах 1946—48. І тады хроніка беларускіх падзеяў адзначае:

— Першы сход Ініцыятыўнай Групы Беларусаў у Вял. Брытаніі, 22 верасьня 1946 г. ў Лёндане.

— Першы Камунікат той-жа Ініцыятыўнае Групы, якая пастанавіла арганізаваць ЗБВБ. (Камунікат бяз даты, але мусіў выйсьці ў лістападзе 1946).

— Першы нумар беларускага часапісу «На Шляху» (30 лістапада 1946).

— Першы Агульны Зьезд ЗБВБ, які адбыўся ў Лёндане 18 і 19 студзеня 1947 г. пры вялікай колькасьці прысутных, пераважна былых жаўнераў.

— Першы нумар «Беларуса на чужыне» (7 кастрычніка 1947 г.).

— Першы куплены Беларускі Дом у Лёндане (29 кастр. 1948 г. былі закончаные ўсе фармальнасьці куплі).

— Першая беларуская арганізацыя зьлегалізаваная ў Вял. Брытаніі, як супалка з абмежанаю адказнасьцю (24 сьнежня 1948).

*

Калі мы ўспамінаем некаторыя важныя здарэньні з дзейнасьці ЗБВБ, дык варта назваць і тых людзей, якія першымі ўзяліся за грамадзкую працу.

Ідэйным закладчыкам ЗБВБ быў др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, а найбольш рухлівым ягоным супрацоўнікам, які праз нейкі час трымаў у чамадане пад вайсковым ложкам усе сьпісы сяброў, камунікаты і заявы, быў Віктар Сенкевіч. Вось-жа гэтыя два дзеячы распачалі сэрыю Старшыняў Галоўнае Управы — Др. В. Жук-Грышкевіч і Сакратароў — В. Сенкевіч. Ад самага пачатку да іх далучыліся: А. Надсон, К. Нор, Ч. Кукель,



Ф. Бартуль і інш. Хутка ўцягнуліся ў працу П. Асіповіч, М. Нікан, У. Курыла, М. Яськевіч, М. Баяроўскі, П. Навара, А. Лашук, Ул. Бутрымовіч, Я. Сяўковіч, Я. Міхалюк, Т. Кажаневіч і нямала іншых з Лёндану дый з іншых гарадоў і мясцоў Брытаніі.



*Учасьнікі II-га Агульнага Зьезду ЗБВБ. Лёндан. 2. V. 1948.*

У радах сяброў ЗБВБ ахвярна працавалі беларускія сьвятары, а цяперашнія біскупы: А. Крыт, Ч. Сіповіч, а такжа Архімандрыт Л. Гарошка, Протоерей Я. Абабурка і а. Р. Тамушанскі.

Праявамі канкрэтнай дзейнасьці ЗБВБ трэба лічыць: куплю і адміністраваньне трох Беларускіх Дамоў, выдаваньне часапісаў і брашур, зборку грошаў на розныя харытатыўныя, грамадзкія і культурныя патрэбы, арганізаваньне нацыянальных сьвятаў, (перадусім 25 Сакавіка і Слуцкага паўстаньня) а такжа рэлігійных — каталіцкіх і права-



*Учасьнікі XXV-га Агульнага Зьезду ЗБВБ. Лёндан. 17. VII. 1971.*

слаўных, дый супрацоўніцтва з арганізацыямі іншых нацыяў у камітэтах, як: Central Coordinating Committee; The European Liaison Group; Anglo-Byelorussian Society, — а таксама арганізаваньне дакладаў, лекцыяў, прынацьцяў і вечарынаў.

У будучыні пільны гісторык ЗБВБ павінен будзе падлічыць, колькі і калі і дзе адбываліся ўспомненыя факты — пасьведчаньне дзейнасьці ЗБВБ. Памогуць яму ў гэтым Камунікаты Галоўнае Управы (85), пратаколы Агульных Зьездаў (25), пратаколы паседжаньняў Гал. Управы (218) і пратаколы зборкаў Аддзелаў, артыкулы ў розных газэтах і часапісах аб працы ЗБВБ.

Тут з прызнаньнем трэба сьцьвердзіць, што ЗБВБ бяздзейным ня было! Магло-бы яно зрабіць і больш, а магчыма многія справы залагодзіць і лепш. Аднак, на жаль, зашмат працы кладзецца на ахвярныя адзінкі, калі іншыя, прыдбаўшы капейку, вельмі натужваюцца яе павялічыць, а часамі аддаюць увесь вольны час толькі тэлевізіі . . . А прытым і лютая сьмерць падкошвае рады беларускіх патрыётаў і дзеячоў. Нарастае, праўда, маладое пакаленьне, але яно пераважна ўзгадаванае ў чужых школах, ня ведае роднай мовы і мала цікавіцца краінай, грамадзкай працай і справамі бацькоў.

ЗБВБ прабавала няраз арганізаваць свае школкі, займацца моладзьдзю, але дзеля шматлікіх перашкодаў вынікі нашых натугаў у гэтай галіне былі мізэрныя.

Глянуўшы на прабыты шлях 25 гадоў, шлях складаны, загружаны каменьнямі-валунамі, трэба было-б спытацца: Што далей?

«Дваццаць пяць год!
А яшчэ колькі?
Хто скажа?
Хто тут прарок?
Колькі нас пры дарозе той ляжа
У чужы няпрытульны пясок?»

Гэта ўзята з вершу Пятруся Сыча, які пісаў яго ў 10-ю гадавіну ЗБВБ. І сам ужо лёг у пясочку на могілках у Мюнхэне. Мы аднак ідзём далей. Праблема не зьмянілася. Для падтрыманьня унутранай дысцыпліны нас чакаюць зьезды, паседжаньні, выбары у Управу, лекцыі і інш., за што ніхто нікому ня плаціць.

Мы і надалей павінны і будзем пашыраць веду аб нашай Бацькаўшчыне сярод чужынцаў, падтрымліваць сваіх суродзічаў і свае установы, інфармаваць грамадзтва аб сапраўдных дасягненьнях нашага народу і аб злачынствах і крыўдах, якія прычыняе беларускаму грамадзтву і адзінкам партыйны рэжым у БССР.

Заданьне вялікае і адказнае: дай, Божа, усім нам сілы і вытрыманасьці!

*Лёндан. 18-га студзеня 1972 г.* *А. Дз-ка.*

---

## *З нашае мінуўшчыны*

*Сёлета выпадае 25-ці гадовы юбілей ад заснаваньня ЗБВБ. З гэтае нагоды зьмяшчаем першы Камунікат, які быў выданы ў Лёндане ў канцы 1946 году.*

КАМУНІКАТ № 1.

Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі (ЗБВБ).

Дня 22 верасьня 1946 г. сабралася ў Лёндане ініцыятыўная група беларусаў і на сваім сходзе пасьля ўсебаковага разважаньня беларускай справы наагул і палажэньня беларусаў у Вялікай Брытаніі ў прыватнасьці пастанавіла:

1. Залажыць беларускую арганізацыю ў В. Брытаніі з сядзібай у Лёндане пад назовам «Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі» (ЗБВБ).
2. Прыняць праект Статуту «ЗБВБ».
3. Зьвярнуцца да Галоўнага Штабу Польскіх Аружных Сіл з просьбай аб выдачы дазволу беларусам-жаўнерам Польскай Арміі на ўступленьне у «ЗБВБ» з паданьнем гэтага дазволу ў спэцыяльным загадзе Галоўнага Штабу і абвяшчэньнем ува ўсіх аддзелах Польскай Арміі.
4. Адчыніць прыймо сяброў у «ЗБВБ» згодна з яго статутам.
5. У найбліжэйшым часе выдаць часапіс «ЗБВБ» і ў сувязі з гэтым прыступіць да збору матэр'ялаў.
6. Распачаць збор ахвяр на «Беларускі Дом» ў Лёндане і на выдавецкі фонд.
7. Зьвярнуцца да ўсіх беларусаў у Вялікай Брытаніі з прапазыкай уступу ў сябры «ЗБВБ» і запрапанаваць ім правесьці першыя арганізацыйныя крокі:

а) там, дзе зьбярэцца панад 10 чалавек беларусаў залажыць аддзел «ЗБВБ», выбраць кіраўніцтва аддзелу з старшыні, сакратара і скарбніка і сабраць ад усіх сяброў заявы аб уступе ў «ЗБВБ», уступную і месячную сяброўскія складкі (за кастрычнік) і ўсё гэта пераслаць на адрас: Сенкевіч Віктар, Gt. Bower Wood Camp, Beaconsfield Bucks.

б) там, дзе ёсьць толькі адзін беларус ці некалькі — атрымаўшы гэты камунікат будзе ўважаны праз Управу «ЗБВБ» за Мужа Даверу і яму даручаецца гуртаваньне сяброў, зьбіраньне заяў аб уступе і сяброўскіх складак, перасылку іх сакратару «ЗБВБ», а такжа утрымоўваньне з ім сувязі.

7. Склікаць Агульны Зьезд сяброў «ЗБВБ», як толькі будзе закончана падрыхтаваўчая работа.
9. Заняцца справай эвэнтуальнай эміграцыі беларусаў у заморскія краіны арганізаваным парадкам.
10. Адносна запісу ў П.К.П.Р. Сход Ініцыятыўнай Групы Беларусаў пасьля ўсебаковага разважаньня палажэньня беларусаў, прыняўшы пад увагу, што варочацца на Бацькаўшчыну няма чаго і няма пашто — выказаў погляд, што ў сучасных абставінах найлепшым выходам для беларусаў будзе ўступленьне у вышэйуспомнены П.К.П.Р.

*(Лёндан, 1946).*

*Тымчасовая Управа «ЗБВБ»:*
*Старшыня: Жук-Грышкевіч*
*Сакратар: Сенкевіч.*

# Сьвятой памяці Дамінік Анісько

Падаём вынятк з КАМУНІКАТУ разасланага пасьля сьмерці Дамініка Аніські, дапаўняючы паведамленьнем аб пахаваньні.

У панядзелак пасьля Калядаў, 28-га сьнежня 1971 г. раптоўна памёр у Беларускім Доме ў Лёндане ДАМІНІК АНІСЬКО. Прычына сьмерці пададзеная доктарам: востры або хранічны бранхіт. Такжа цяжкі жыцьцёвы шлях і пажылы век зрабілі сваё.

*

Дня 7 студня 1972 г. ў пятніцу ў капліцы Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ў Марыян Гоуз перад труной з целам памёршага была адслужана Сьв. Літургія айцом Язэпам Гэрмановічам у рымскім абрадзе ў беларускай мове. Прынагоднае слова сказаў Біскуп Чэслаў Сіповіч, які такжа адводзіў цела памёршага Сьв. Пам. Дамініка на могілкі Сьв. Панкрата ў Лёндане. Сабралася немалая колькасьць суродзічаў на пахаваньне і значная група ўчасьнічала і на могілках. Усе са шчырым жалям разьвіталіся з Дарагім Прыяцелям, які пакінуў па сабе найлепшыя ўспаміны.



*

Самыя дакладныя весткі аб паходжаньні, жыцьці і дзейнасьці Д. Аніські чытаем у ягонай Аўтабіяграфіі, якую ў гэтым нумары залучаем. Удзельнічаў ён, як расейскі прапаршчык і польскі афіцэр у войнах: у І-ай Вялікай, у польска-бальшавіцкай, польска-украінскай, дый у ІІ-ой Вялікай. Толькі-ж дзіўна з ім здаралася, што ён — з волі Божай — бываў або ў запасных частках, або трапляў на фронт у мамэнт замірэньня, дык ня бываў у ніякіх бітвах. А як быў у няволі расейскай з польскімі афіцэрамі, дык проста цудам ня быў прыпісаны ў лягеры Казельскім у групу, якую адпраўлялі ў Катынь, дзе яны ўсе згінулі! І характэрна, што ў вайсковай кніжцы (Стану Службы Афіцэрскай) Аніська меў запісана: «Мова беларуская і народнасьць беларуская, рэлігія рымска-каталіцкая». І гэта была польская легітымацыя. Пэўна, што ня шмат было такіх рашучых і адважных беларусаў, якія, будучы афіцэрамі ў расейскай ці польскай службе падавалі сваю нацыянальнасьць без ламаньня праўды...

У сваіх артыкулах ён стараўся класьці націск на тое, каб беларускаму адраджэньню «надаць кірунак хрысьціянскі». Гэтай вялікай ідэі Аніська астаўся верны ва ўсіх сваіх творах аж да сьмерці!

Ад 1949 году жыў у Беларускім Доме ў Лёндане і жыў з пэнсіі, працуючы прынагодна. Высылаў пачкі і лякарствы сваяком і розным людзям, якія да яго зьвярталіся.

*

Усе мы добра помнім дзядзьку Дамініка: невялікага росту, сінія дабрадушныя вочы, лагодная ўсьмешка, далікатнасьць і ветлівасьць у голасе, скромная вопратка, шчырая бяз ніякае позы пабожнасьць — вось незабыўныя уласьцівасьці Аніські.

Гэты навонкі сьціплы, ціхі чалавек таіў — быццам той вулькан — у глыбіні сваей душы нязвычайную сілу духа! Ён яе чэрпаў з найчысьцейшай крыніцы — з веры ў Бога, з навукі Хрыста. Ён ня быў сынам сьвятара, не трапіў ні ў якую духоўную сэмінарыю, быў дабраахвотнікам-афіцэрам, а кожны напісаны ім артыкул мог-бы падпісаць найлепшы сьвятар. Мы бяз сумневаньня залічаем Дамініка Аніську да сьвецкіх рэлігійных дзеячоў, якіх Царква так цяпер патрабуе. Але даём слова самому Аніську! Вось чуваць ягоны голас:

— Браты!

Ёсьць цярпеньні, каторыя адхіліць ня ў нашай моцы, але ёсьць цярпеньні, бадай ці ня большая іх частка, якія мы самахоць прычыняем адны другім: ці то рукамі, ці словам, ці якім ашуканствам. І як гэта можа рука нашая падняцца на чалавека, на гэты абраз Божы і на падабенства Божае, на чалавека — на нашага брата?

Як гэта язык наш можа павярнуцца, каб зрабіць прыкрасьць,каб скрыўдзіць чалавека злосным, а неасьцярожным словам? чалавека, сэрца каторага так глыбока раніць усялякая наша несправядлівасьць? Гэта сэрца такое ўражлівае, такое далікатнае, але здольнае так моцна любіць...

Мы ўсе, браты, у вялікай цяжкай падарожы!

Мы ўсе ідзём праз сьцежкі нашага жыцьця.

Мы тут толькі госьці: учора спаткаліся, а заўтра расстанемся.

Чаго мы маем біцца, сварыцца? На што мы яшчэ адны другім падстаўляем ногі на нашых жыцьцёвых сьцежках?...

Трэба нам урэшце праняцца цнотаю міласьці бліжняга, цнотаю, каторай вучыць нас Ісус Хрыстос.

Трэба, каб міласьць гэтая праняла ўсе нашыя мысьлі, усе нашыя жылы, усе нашыя

справы і паступкі і ўсе нашыя інтэнцыі.

Даволі сьлёз!

Даволі крыві!

Міласьць братэрская, міласьць чыстая, міласьць сьветлая — ясная, няхай засьвеціць над намі!..

Бо ўжо дваццаты век на сьвеце!... (З артыкулу: «Ділігэмус альтэрутрум», Хрысьціянская думка, год 1928. нр. 8).

Гэтак гаварылі пракокі, гэтак гаварыў Дамінік Анісько, сын беларускай вёскі, Апостал вялікай палымянай міласьці.

«УСЁ Ў МІЛАСЬЦІ!». Гэтыя словы былі на ягоных вуснах і ў сэрцы і з такім клічам зьвяртаецца да суродзічаў з за гробу. Гэта ёсьць жывы ТЭСТАМАНТ Сьв. Памяці ДАМІНІКА АНІСЬКІ.

Лёндан. 13. І. 1972.

*а. Я. Г.*

# Дамінік Анісько — аўтабіяграфія

Нарадзіўся я 12 студня 1888 г. ў вёсцы Слойніках Сакольскага павету Гродзенскай губэрніі. Мой тата Ян Анісько і мама Людвіка з дому Галей мелі гаспадарку. На тэй гаспадарцы разам жыў і працаваў з сваей жонкаю і з дзецьмі малодшы брат майго таты, мой дзядзька Дамінік. Зямлі ў нас было цэлы ўчастак, каторы ў нашай вёсцы меў 16 дзесянцін, бо ў другіх вёсках колькасьць дзесянцін на ўчастак (валоку) была іншая: дзе лепшая зямля, то менш, а дзе горшая — больш.

Жонка майго дзядзькі была малодшай сястрой маей мамы. Такім парадкам жылі разам са сваімі дзецьмі два браты і дзьве сястры.

Крыху помню яшчэ свайго дзеда, Мацея, які памёр маючы каля 75 гадоў. Бабка Разалія памярла крыху пазьней.

Быў ў мяне старшы брат Яська, які мяне пачаткова вучыў чытаць і пісаць. Ён памёр у маладым веку, маючы толькі 27 г.

Была таксама і адна сястра Рузя, старшая ад мяне.

У часе першае сусьветнае вайны яна аддзялілася ад дзядзькі, бяручы палову гаспадаркі. Татка і мама ўжо ня жылі. Мяне таксама ня было дома: быў пакліканы на вайну. Пазьней сястра прыняла да сябе чалавека: у іх было некалькі дзяцей, але цяпер жыве толькі Маня і Нюта. Яны цяпер зьяўляюцца найбліжэйшаю для мяне раднёю. Абедзьве павыходзілі ўжо замуж. А сястра памярла маючы 45 г. У такім прыблізна веку памярла і мама, а татка памёр таксама не так стары, бо маючы толькі каля 52 гадоў.

Але тут трэба аглянуцца крыху назад. Падвучыўшыся крыху ў хаце чытаць-пісацьрахаваць, я пайшоў у школу, якая была ў другой вёсцы — у Яноўшчыне, 3 кілямэтры ад нас. Гэта было за расейскіх часоў і школа была расейская.

Школа была дзейная толькі зімою і я праз дзьве зімы, разам з другімі дзяцьмі хадзіў туды штодня, апрача нядзелі. Але гэта прыкра ня боло. Часам, як была нядобрая пагода, хтосьці з тых, што хадзілі да школы, падвозіў.

Мама, хоць крыху недамагала, але штодня варыла сьнеданьне, а на абед бралася з сабою штосьці сухое.

Скончыўшы тую школу і крыху яшчэ падвучыўшыся прыватна, быў я прыняты ў Гарадзкую школу, якая была ў Саколцы.

Тут ужо трэба было наняць кватэру, бо Саколка ад нас крыху далей чым Яноўшчына.

У тэй школе я толькі быў адзін з нашае вёскі, бо другім гаспадаром здавалася, што гэта была-б за дарагая справа, каб аддаць дзіця на навуку ў горад. Бо, што праўда, мае хатнія маглі на гэта пазволіць, дзякуючы таму, што ў нас і гаспадарка была адна з лепшых і да гэтага быў яшчэ і млын.

Вучыцца там было мне спачатку труднавата, але потым пашло штораз лепей і скончыў тую школу з пахвальным лістом.

Тут таксама ўсе прадметы выкладаліся па расейску, нават і рэлігія. Толькі да каталікоў прыходзіў ксёндз, а да праваслаўных бацюшка.

Кончыў я Гарадзкую Школу ў 1906 годзе. Яшчэ перад гэтым часам пачаў я даходзіць да беларускай нацыянальнай сьведамасьці. Бо тут у нас яшчэ яе ня было. Каталікоў называлі «польскімі», а праваслаўных «рускімі». Але ў школе гэтая тэрміналёгія ўжо ня была дастатковая. Нават з геаграфіі бачылася, што на сьвеце жывуць усялякія народы. Да якога-ж тады я належу? Да польскага хіба што не! бо нашая мова — зусім іншая!

Аднаго разу, як быў я ў Горадні, праходзячы па Саборнай вуліцы, спасьцярог у вакне польскай кнігарні «Беларускую Дудку». Зразумела, што адразу яе купіў. І гэта была першая кніжка — беларуская! Прадмова да гэтай кніжкі вельмі мяне парушыла і ўмацавала ў пракананьні, што я беларус.

У гэтым часе, як я вучыўся у Гарадзкой школе, памярла мая мама і нас трох мужчын мусіла абмыць, абшыць сястра Рузя. Значыць, каб кожную нядзелю было ў што зьмяніцца.

Тут трэба падкрэсьліць прадзіўную працавітасьць вясковай дзяўчыны. Яна, як толькі стане на нагах, памагае ў гаспадарцы, нянчыць малых, вучыцца і пасе. А як ужо здужае, дык тчэ, шые, мые бялізну, ня толькі для хатніх, але й яшчэ, каб накласьці скрыню палатна на час выхаду замуж. І ўсё толькі прыхватамі, бо штодня трэба некалькі разоў карміць усю сам'ю і скаціну, а вясною, летам і ў восень да таго яшчэ й работа ў полі!

Цяпер пры лепшай тэхніцы многа што робіцца машынамі. А ў калгасах — ужо іншыя парадкі.

*

Кончыўшы Гарадзкую школу, я ня ведаў, што далей рабіць? Летам памагаў у гаспадарцы, а зімою вучыў прыватна ў Саколцы дзяцей. Чытаючы апавяданьні аб войнах, асабліва пад уплывам Трылёгіі Сенкевіча, захацелася мне стацца вайсковым. Падвучыўшыся яшчэ крыху і здаўшы эгзамін на вольна — запіснога пры Сувораўскім Кадэцкім Корпусе ў Варшаве, я восеньню 1907 г. пайшоў на вайсковую службу у 102 пяхотны Вяцкі полк, які кватэраваў у Горадні.

«Тымчасам, разважаў я сабе, адбуду службу, бо і так трэ было ісьці ў войска, а пасьля пабачу, што рабіць».

Выйшаў з войска ў 1909 г. Хацеў знайсьці якую добрую працу, але не траплялася. Тата казаў, каб аставаўся ў хаце, але мне хацелася недзе ў сьвет... І раз выбраўся аж у Вільню і там дастаў працу ў готэлі. Калі-некалі заходзіў у рэдакцыю «Нашай Нівы» на Завальнай вуліцы і там браў газэту.

Так і прабыў нейкі час у Вільні і вярнуўся ў Слойнікі, дальш памагаў у гаспадарцы. «Наша Ніва» даходзіла да мяне і тут. Потым каталіцкі тыднёвік «Беларус», у якім я пачаў сёе-тое пісаць.

І так надыйшла першая сусьветная вайна, якая і мяне пацягнула ў сьвет. Пачаткова прабываў па запасных батальёнах у Расеі, а потым з маршаваю ротай быў пасланы на фронт. Тады ўжо немец пасунуўся на ўсход і фронт праходзіў праз беларускія землі, бо гэта было ужо ў канцы 1915 г. Полк, да якога нас прылучылі, знаходзіўся на Беларусі. У наступным годзе выслалі мяне ў школу Падпрапаршчыкаў у Кіеў. Як кончыў школу, паслалі мяне ў запасны батальён у Расею, а тады на фронт зноў на тэрыторыі Беларусі, у ваколіцы вазёр Нарач, Мядзёл.

На фронце захапіла мяне рэвалюцыя. Як старэйшы гадамі быў я з войска звольнены і паехаў у Менск, які ў хуткім часе занялі немцы. Цяпер, калі фронт перасунуўся яшчэ далей на ўсход, можна было ехаць дамоў. Немцы ня перашкодзілі, толькі па дарозе затрымалі на кварантану, якая працягвалася добрых пару тыдняў. І я адбываў кварантану ў Вялейцы.

*

Вярнуўшыся да хаты, я знайшоў сястру ўжо аддзеленую ад дзядзькі. Але дома ня так доўга прышлося мне гасьціць. І быў я пакліканы ў польскае войска, бо нашыя абшары тады ўжо належылі да Польшчы. Гэта было ў 1920 г.

Спачатку быў пасланы на афіцэрскія курсы ў Школу Падхоронжых у Быдгошч. Потым на фронт каля Львова. Але хутка настала замірэньне і наш полк затрымаўся ў тых мясцох на кватэрах. Пасьля паслалі мяне на службу ў Сапэрныя баоны, пазьней у баоны цэльныя ў ваколіцах Аўгустова. І звольнены з войска ў рэзэрву ў 1923 г.

І пасьля мне ўдалося знайсьці працу ў Урадовым Банку на цэлых пару гадоў. А пасьля звольнены дзеля рэдукцыі služачых, а можа і з прычыны маей беларускасьці?

Больш адпаведнае працы я знайсьці ня мог, дык прышлося сядзець у вёсцы і памагаць пры гаспадарцы.

А можа гэта было і лепш, бо чалавек мог праз гэта пазнаваць свой народ, які пераважна ёсьць народам селянскім.

Неяк у гэтым часе пачала выходзіць у Вільні «Хрысьціянская Думка» і я пачаў пісаць артыкулы і пасылаць туды. Пару рэчаў даўжэйшых друкавалася ў некалькіх нумарох, а потым яны былі выданыя брашуркамі, як «Усё ў міласьці», «Да Беларускага Народу», але пераважна гэта былі рэчы дробныя. А быў гэта час нацыянальнага адраджэньня і ў сваіх артыкулах я стараўся класьці націск на тое, каб нашаму адраджэньню надаць кірунак хрысьціянскі.

І так час пралятаў — аж надыйшла другая сусьветная вайна.

*

Як афіцэр рэзэрвы, быў я пакліканы ў польскае войска і пасланы ў адзін з запасных асяродкаў, што кватэраваў у Вільні. Але нядоўга прышлося затрымацца; з аднаго боку націскалі немцы, асабліва паветранымі налётамі, а з другога боку выступілі бальшавікі і іхнія вайсковыя сілы падходзілі пад Вільню. Тады наш Асяродак аднаго вечара выступіў з Вільні і скіраваўся да Літоўскае граніцы. Мы былі змушаныя аддаць аружжа і нас літоўцы інтэрнавалі.

Пачаткова нас закватэравалі ў адным маёнтку, а пасьля перавезьлі ў мястэчка Каль-

варыю, у абоз інтэрнаваных афіцэраў. Тут мы аставаліся, пакуль бальшавікі не занялі Літвы. А як прыйшлі яны і сюды, дык забралі нас дый вывезьлі ў Казельск. А потым, як немцы ў 1941 пайшлі на Расею, дык перавезьлі нас далей на поўнач у Гразовец Валагодзкай губэрніі.

Тут у гэтым Гразоўцу нас захапіла польска-савецкая ўмова, дзякуючы якой мы былі звольненыя.

Але перад гэтым да нас прыехаў генэрал Андэрс, які пачынаў там арганізаваць польскае войска. І тут адбылася публічна на пляцу ў прысутнасьці савецкіх афіцэраў сьв. Імша, чаго мы ўжо даўно ня мелі.

Сьвятары, капэляны польскага войска, цэлы час былі з намі разам. І пакуль мы былі ў Літве, яны нармальна выконвалі свае сьвятарскія абавязкі. Пры абозах былі капліцы і мы без перашкодаў маглі выконваць свае рэлігійныя практыкі. Але ў Саветах трэба было гэта рабіць як у катакомбах.

Па звальненьні ўсе масава ехалі запісвацца ў польскае войска, якое арганізавалася ў Бузулуку. Разам з другімі паехаў таксама і я. Але была нястача памешканьняў. Частка войска стаяла ў палатках нават і зімою. Падвойныя палаткі, наўкола абмерзлыя, але людзі неяк давалі сабе раду, каб не замерзнуць.

Партыя старэйшых людзей высылалася на поўдзень у Казахстан, дзе ўсёж такі цяплей. У гэтую партыю трапіў і я.

Ехалася каля двух тыдняў цягнікам, з пераважна сухою ежаю і калі часам удалося зварыць на печцы «кіпятку», дык і без гарбаты і бяз цукру быў добры.

Прыехалі мы ў горад Каган і закватэравалі проста на адным пляцы, дзе было ўжо многа пазвальняных польскіх уцекачоў, мужчынаў і жанчынаў. Усё гэта было пад адкрытым небам: людзі днявалі і начавалі на сваіх рэчах. Праўда, тут яшчэ было цёпла і аніразу, пакуль я там быў, ня было дажджу.

Але палажэньне было няпэўнае, што рабіць далей?

Некалькі чалавек нас, сабраўшыся, давай рабіць стараньні, каб вярнуцца назад у Бузулук. Улада, хоць вельмі неахвотна, але на гэта згадзілася, значыць, мы вярнуліся. Тут, хаця былі страшэнныя марозы, але чалавек меў прынамсі нейкі куток і меў жаўнерскую рацыю.

Потым з войскам генэрала Андэрса я выехаў з межаў Расеі: спачатку ў Пэрсію, а стуль у Палестыну. Гэта сталася ў 1942 г. Прабыў тут каля 4 гадоў. Спачатку па абозах, а потым цэлы час у Ерузаліме.

Калі мы ехалі ў Палестыну (цяпер Ізраэль), то я быў рад гэтаму, што буду магчы адведаць і пабачыць Сьвятыя Месцы.

Тут чалавек ужо быў матар'яльна забясьпечаны. Ня толькі мы, што лічыліся яшчэ пры войску, але і кожны з уцекачоў атрымліваў засілак ад Грамадзкай Апекі.

Будучы ў Ерузаліме, я апісаў Сьвятыя Месцы, што пасьля, як ужо быў у Англіі, друкавалася ў некалькіх нумарох «Божым Шляхам». Напісаў яшчэ брашуру: «Як жыць?», якая там была надрукована па польску. Таксама там у Ерузаліме памагаў тэхнічна ў выдаваньні польскага каталіцкага тыднёвіка «Тыгоднік Каталіцкі», дзе і маіх пару дробных артыкулаў было зьмешчана.

Потым год прышлося прабыць у Егіпце, а стуль у 1947 г. перавезьлі нас у Англію.

Спачатку быў па абозах, а ад 1949 г. ў Лёндане. Тут напісаў і была выдана па польску брашура: «Под бэрло Хрыстуса Круля», бо па польску была большая магчымасьць друкаваць. І яшчэ брашуру: «Вшыстко сьвядчы о Нім», аб існаваньні Бога.

Што да работы, то спачатку я ня вельмі так хваляваўся, бо і з ангельскаю моваю ў мяне слаба і ў старэйшым веку трудней ужо нешта больш падыходнае знайсьці, але пакрысе сюд-тут працую яшчэ і цяпер, ня так дзеля заработку, як для разрыўкі, бо зарабляць мала ў чым дам рады.

Ад пачатку прыезду ў Лёндан жыву ў Беларускім Доме, памагаючы ў дагляданьні яго. А таксама паводле магчымасьці крыху памагаючы сваім блізкім у Краі.

Сюды-туды здарыцца яшчэ напісаць і друкаваць ў газэце якісьці артыкул па беларуску ці па польску.

Маю яшчэ крыху рэчаў ненадрукованых, з каторых можа яшчэ калі што і надрукуецца?

20 — VI — 1970.

*Дамінік Анісько*

---

# Пралат Пётр Татарыновіч у Амэрыцы

Ведамы і на Бацькаўшчыне, выдатны беларускі рэлігійна-грамадзкі дзеяч, прыбыў з Рыму наведаць суродзічаў у Амэрыцы.

У гэтым 1971 годзе пралат Татарыновіч (ён мае і навуковы дактарат), сьвяткаваў падвойны юбілей: 75 гадоў жыцьця і 50 г. сьвятарства — залаты юбілей! З гэтае нагоды каталікі беларусы запрасілі Паважанага Юбілята цэлебраваць свае Юбілеі і ў Амэрыцы, супольна з суродзічамі. Пларат прыхільна згадзіўся.

Найперш Юбілят затрымаўся ў Нью Ёрку, адведаў там нашых грамадзка-палітычных дзеячоў, адправіў некалькі Літургіяў у роднай мове і самелётам прыбыў ў Чыкага, дзе 14 лістапада адправіў сьпяваную сьвятую Імшу з айцамі Янкам і Уладзімерам Тарасэвічамі.

Пачатак набажэнства, сьпяваная Імша і заканчэньне, усё адбылося вельмі прыгожа і ўрачыста: Юбілят у асысьце айцоў Тарасэвічаў



увайшоў у сьвятыню з працэсіяй пры рэлігійным сьпеве, а падчас Літургіі хор сьпяваў выняткова прыгожа, кс. І. Гіраў іграў на арганках дасканала! Вернікі ў адпаведным часе сьв. Імшы пялі беларускі гімн «МАГУТНЫ БОЖА» і ўсе голасна адмаўлялі ВЕРУЮ і ОЙЧА НАШ, чыталі біблійныя тэксты, паднесьлі да аўтара БОЖЫЯ ДАРЫ; а казаньні мелі айцец Янка і Сам Цэлебранс. Заканчэньне таксама адбылося урачыста: сьпявалі рэлігійны гімн: «МЫ ХОЧАМ БОГА, ДЗЕВА МАЦІ!». А Юбілят у працэсіі пры пабожным пяяньні народу выходзіў ад аўтара сьвятыні. Агульна ўсё адбывалася ў роднай мове.

Пасьля набажэнства уладзілі банкет. Пасьля пасілку, прыгатаванага нашымі шаноўнымі спадарынямі, былі прамовы аб дзейнасьці Пралата для нашае Бацькаўшчыны і народу, падзяка Юбіляту за візыт у Чыкага. Прамовы чаргаваліся сьпевам салістак, скокамі малодшых дзяўчатак дый ігрой на піяно, скрыпцы, гітары, флейце.

Адбылося ўсё паважна дый прыемна. Закончана пажаданьнем Юбіляту ўсяго найлепшага і гучным СТО-ГОД, дый яшчэ раз СТО жыць Пралату! а тады пачалі разыходзіцца ўжо позьним вечарам.

16 лістапада мы мелі разьвітаньне: сабраньне, на якім былі парушаны з Паважаным Пралатам важныя справы і пытаньні. Галоўна было тое, як праводзіць шырэйшае асьведамленьне эміграцыі, нацыянальна-беларускае; як яго ажыўляць у цяперашніх абставінах вусна і праз прэсу.

*Ян Чарнэцкі*

ЧЫКАГО: З году-ў-год увосень розныя нацыі, у тым ліку і беларусы ў Чыкаго, ладзяць выставы сваіх вырабаў, адзетку і наагул сваё апрычонае. У 1971 г. на нашай Выстаўцы былі прыгожыя дываны, абрусы, посьцелкі, жаночыя убраньні і інш. Дый усё ручнога вырабу. А дзьве маладыя беларускі ў самадзельным народным убраньні — адна за прасьніцаю з ільнянаю кудзелькай прала ніткі, а другая на правізарычным варштаце ткала палатно з такіх нітак. І ўсё гэта было вельмі цікавае — аж усе госьці затрымліваліся ля нашае выстаўкі!

Дый Беларускую Выстаўку, мастак Алекс Ясюковіч яшчэ больш упрыгожыў сваімі абразамі-іконамі, удала намаляванымі.

Акрамя экспанатаў не бракавала і кухні з рознымі беларускімі прысмакамі. А моладзь выканала некалькі народных танцаў.

*Прысутны Н. Н.*

Далучаю фото з Сьвятой Імшы Пралата П. Татарыновёча: вышла ўсё крыху цемнавата, але магчыма. А таксама далучаю ад сябе пяцёрку $.

*Той Самы.*

---

# Два новыя сьвятыя ў Праваслаўнай Царкве

10 красавіка 1970 г. Сынод Маскоўскае Патрыярхіі даў *аўтаномію* Праваслаўнай Японскай Царкве. І даў *аўтокефалію* Расейскай Праваслаўнай Царкве ў Амэрыцы.

Такім спосабам Прав. Японская Царква асталася ўсё-ж залежнай ад Масквы. Каб падкрэсьліць гэтую кананічную залежнасьць Японскай аўтанамічнай Царквы ад Маскоўскага Патрыярха, Патрыярх Аляксей з сваім Сынодам кананізаваў тады апостала Японіі, архіяпіскапа МІКАЛАЯ, якога прызналі сьвятым.

А з другога боку Расейская Аўтокефальная

Царква ў Амэрыцы, каб выразіць сваю поўную самастойнасьць, кананізавала 9 жніўня 1970 г. айца ГЭРМАНА, які праславіўся на Алясцы паўдзённа-заходняй, на востраве Кадзіяку. Сьв. Гэрман жыў і працаваў там у XVIII стагодзьдзі.

Кім былі гэтыя новыя сьвятыя, што заслужылі на найвышэйшы гонар і пашану на зямлі? Пэўна-ж, што ў Маскве і ў Амэрыцы духоўныя ўлады кіраваліся вельмі паважнымі прычынамі і падставамі.

Як ведама, пакуль чалавек жыве, ніколі няведама, чым ён можа скончыць, хоць-бы вёў найсьвяцейшае жыцьцё. Зусім, як з тым дрэвам, што расьце роўна і высока, дык няведама, куды яно зваліцца. Але, як ужо раз упадзе, дык там і ляжаць будзе. І якая вечнасьць выпадзе чалавеку, залежыць ад ягонага канца, а сьмерць залежыць ад жыцьця. Дык і гавораць: «Якое жыцьцё, такая сьмерць, а якая сьмерць, такая вечнасьць».

Сьведкамі таго, якім было жыцьцё чалавека, апрача Самога Бога, ёсьць такжа людзі — увесь «Божы народ», як кажуць: «Голас народу — голас Божы». Дык вось першым знакам сьвятасьці ёсьць агульнае перакананьне сучасных людзей, што гэты чалавек быў сьвятым. У такім перакананьні людзі — замест маліцца за памёршага — моляцца да яго і зьвяртаюцца з сваімі патрэбамі і просьбамі, як да сьвятога. І гэта дае Богу нагоду, каб праславіць па сьмерці таго, хто Яго належна славіў сваім жыцьцём, жывучы па Божаму. А Бог спаўняе просьбы і малітвы тых, што зьвяртаюцца да ягонага вернага слугі — да сьвятога, яшчэ няпрызнанага Царквою. Гэтак слава такога «кандыдата» з гадамі ня спыняецца, але ўсьцяж узрастае. Царкоўныя ўлады мусяць зьвярнуць увагу на такое зьявішча і мусяць заняць адпаведнае становішча.

Тады абавязкам Царквы ёсьць кантраляваць духоўнае жыцьцё, вернікаў, каб ня ўпалі ў спакусу і захаваць асьцярожнасьць. Каталікі перад усім глядзяць на характар цудаў, ці яны ад Бога, бо толькі Бог ня мыляецца і не ашуквае нікога. Праваслаўныя таксама стаўяцца да акту кананізацыі — з пачуцьцём найбольшай адказнасьці. Для самага мамэнту «праслаўленьня» новага сьвятога Царква адпраўляе за яго бязупынна адно за другім заўпакойнае набажэнства, каб Бог дапоўніў, калі гэтаму чалавеку яшчэ чаго не хапае да сьвятасьці. Бо прызнаны сьвяты абавязкава мусіць быць ужо ў небе і Царква актам кананізацыі сьведчыць аб гэтым.

Тады толькі Царква можа сьмела паказаць вернікам новага сьвятога, каб яны ня толькі ў патрэбах зьвярталіся да яго, але і вучыліся ад яго такога жыцьця, якое вядзе да найвышэйшай славы, бо славы вечнай у небе!

Такімі сталі Божыя выбраньнікі Сьвяты МІКАЛАЙ і Сьв. ГЭРМАН.

---

*а. Т. П.*

# 40 гадоў радыё ў Ватыкане

На разьвітаньне са Старым Годам — 1971 — трэба абавязкава адзначыць вялікае здарэньне ў Царкоўным жыцьці: была апублікаваная Канстытуцыя «ЛУЧНАСЬЦЬ І ПРАГРЭС»; а з гэтым зьвязана 40 год існаваньня Ватыканскага Радыё.

Пра гэтае Радыё скажам наступнае:

12 лютага 1931 г. Папа Пій XI першы раз прамовіў да ўсяго сьвету праз збудаваную самым Марконім Ватыканскую Радыё-Станцыю. Вялікаму вынаходніку радыё памагаў другі вялікі фізык, італьянец-езуіт, Джанфранчэскі, які быў тады рэктарам Грэгорыянскага Унівэрсытэту ў Рыме і зараз тады ён пакінуў рэктарства, каб кіраваць новай станцыяй. Хто быў тады ў Рыме, мог бачыць, як Марконі самакатам езьдзіў з Рыму ў Кастэль Гандольфо, 25 кілямэтраў, каб адтуль пагаварыць з а. Джанфрачэскам ў Ватыкане па новым радыё і рабіць розныя досьледы. А гэты езуіт ведамы яшчэ з таго, што будучы сьвятаром, як вучоны браў удзел у няўдалай экспэдыцыі генэрала Нобіле на паўночны полюс.

Адкрываючы станцыю Радыё, Пій XI сказаў: «Займаючы месца Князя Апосталаў, якім Хрыстос паручыў навучаць увесь сьвет, мы карыстаем першы раз з цудоўнага вынаходу Марконяга і зьвяртаемся да ўсіх словамі Сьвятага Пісьма: — Зьвярнеце ўвагу, нябёсы, на тое, што вам скажу! Слухай, зямля, маіх слоў... Слухайце гэтага, усе народы, — хапайце ў вушы ўсе, што насяляеце сьвет... Асцярожна прыслухайцеся, найдалейшыя людзі, — слухайце ўважна!

— Першае нашае слова хай будзе: «Слава на вышыні Богу, а на зямлі мір людзям добрае волі!» (Лука 2, 14).

— Хай будзе слава Богу, які ў нашых часах, даў гэтакую ўладу чалавеку, што сапраўды ягоны голас даходзіць да канцоў зямлі!

*

Дзела таго, што Ватыканскае Радыё ёсьць асабістай станцыяй Рымскага Папы, дык ягоны голас пачаў разыходзіцца ў дзесяці мовах сьвету; а сяньня ўжо перадае праграмы ў трыц-

цаці двух мовах і праз гэта займае другое месца ў сьвеце пасьля Бі-Бі-Сі.

Гэткім чынам Ватыканскае Радыё яшчэ доўга перад Саборам і перад Канстытуцыяй «Лучнасьць і Прагрэс» воляй Пія XI сталася трыбунай апостальства, каб прапаведваць Добрую Навіну ўсім народам. Кожны дзень яно перадае 70 праграмаў (а ў тыдні 470). У часе апошняй вайны Ват. Радыё перадало 1.250.000 перадачаў: яно гэтым падтрымлівала на духу веруючых на ўсім сьвеце; а часам было адзіным шляхам, якім Божае Слова магло даходзіць да людзей. Пасьля вайны з Ватыканскага Радыё карыстаў Міжнародны Чырвоны Крыж, які сваімі камунікатамі аб загінуўшых асобах вельмі дапамагаў злучэньню разьбітых сем'яў.

Гэтак мінула ўжо 40 ГАДОЎ ад часу, калі на хвалях радыё ў ва ўсіх важнейшых мовах штодзень чуваць: «Ляўдэтур Езус Хрыстус!», «Слава Ісусу Хрысту!» — «Пахвалёны . . .»

Ад палавіны гэтага часу (у 1950 г.) ініцыятыўная група беларусаў — а. П. Татарыновіч, а. Л. Гарошка, а Ч. Сіповіч і інж. Рыдлеўскі — распачалі стараньні ў Ватыкане, каб увайсьці ў голас па Ватыканскім радыё і беларусам. Папа Пій XII ласкава згадзіўся на просьбу нашых хадайнікаў і а. Пятро Татарыновіч праз два дзесяткі гадоў улажыў нямала стараньняў і працы, каб перадаваць на хвалях радыё для нашага народу, асабліва на Бацькаўшчыне словы праўды, навуку хрысьціянскую і неабходныя весткі з жыцьця рэлігійнага беларускага і сусьветнага: а на вялікі жаль нашыя суродзічы не маюць магчымасьці свабодна чуць Божае слова — перадусім у сваей роднай мове. І ў першую чаргу з Ватыканскага Радыё можна пачуць прамовы і апостольскае навучаньне Папы Рымскага. Такжа можна пачуць набажэнствы, адпраўляныя ў розных мовах і абрадах, казаньні і рэлігійную музыку дый сьпевы. У парапынках паміж перадачамі, як адвечны сымбаль веры, іграецца гістарычны гімн, які сьпявалі яшчэ першыя хрысьціяне, ідучы на сьмерць за сваю веру: «Хрыстос перамагае, Хрыстос валадарыць. Хрыстос кіруе . . .»

*

ПРАГРАМЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ, перадаюцца ў кожную нядзелю, панядзелак, сераду й пятніцу а гадз. 19, м. 5 — эўрапэйскага часу; а на Беларусі а гадз. 21, м. 5. На хвалях: 41- 90, 31- 15 і 25- 60.

І нядзельныя казаньні а гадз. 7,15; — на Беларусі 9,15. На хвалях: 31- 10 і 25- 55.

Хто мае якія запытаньні да Ватыканскага Радыё, ці свае заўвагі, трэба кіраваць да Кіраўніка Беларускае Сэкцыі на адрас: Monsigniore Archimandrite Leo Horoško. Italia, via Corsica 1, 00198, Roma.

Або пісаць на імя супрацоўніка Беларускае Сэкцыі ў Ватыкане на адрас: Rev. T. Podziawa, Marian House, Holden Ave, London, N. 12, 8 HY. England.

# Ці Дастаеўскі быў беларусам?

Увесь культурны сьвет адзначыў 150 гадавіну нарадзінаў аднаго з найбольшых пісьменнікаў у расейскай літаратуры XIX стагодзьдзя, Дастаеўскага. Тодар Міхайлавіч Дастаеўскі лічыцца знаўцам чалавечай душы і значна перавышае нават выдатных заходніх сучасных яму пісьменнікаў рэалістаў; а парушаючы ў сваіх творах агульна-людзкія праблемы стаўся сусьветным пісьменнікам, хоць пісаў вылучна па расейску.

І вось тут паўстае цікавая для нас праблема. Расея была і ёсьць вялікай імпэрыяй. Адзін толькі народ, расейцы, накінуў сваю мову, не дапускаючы іншых да голасу і гэтым самым запраглі іх да працы на карысьць толькі расейцаў. Прынамсі гэтак было ў часах Дастаеўскага. А перад ім яшчэ гэтак украінцы страцілі такога выдатнага мастака, як Гогаль.

У чым аднак праблема, калі йдзе пра Дастаеўскага? А вось у чым: ягоня дачка, Любоў, напісала кнігу аб сваім бацьку па францускy: «Vie de Dostojevsky par sa fille». У гэтай кнізе яна піша, што расейцы не адзначаюцца высокімі маральнымі прыкметамі, якімі адзначаўся ейны бацька. Ён меў зусім не расейскі высокародны маральны характар. А гэта таму, што быў ён не расейцам, а літоўцам. Процiў гэткага аб'яўленьня выступіў у 1953 годзе Мікалай Лосскій, сам вялікі расейскі філязоф. Аднак тое, што ён напісаў, ня толькі не аслабіла сэнсацыі, але выклікала яшчэ большае зацікаўленьне і мы пазволім сабе зацытаваць паважнага дыскутанта. Вось што ён кажа на бачыне 127—128 у сваей кнізе аб Дастаеўскім:

— На шчасьце мы маем цяпер дакладныя інфармацыі аб паходжаньні Дастаеўскага, дзякуючы кнізе М. В. Волоцкага:» Хроніка роду Дастаеўскага (Масква, «Север» 1933). Дакумантальныя дадзеныя аб родзе Дастаеўскіх пачынаюцца з 1506 г. У гэтым годзе пінскі князь Фёдар Іванавіч Яраславіч выдаў свайму баярыну Ірцішчэвічу (па другіх

дакумэнтах Ірцішчу) жалаваную грамату на валаданьне некалькімі сёламі, у гэтым ліку часткай сяла Дастаева (у пінскім уезьдзе Мінскае губэрніі). Пасьля гэтага патомкі баярына Ірцішча сталі называцца Дастаеўскімі. Князь Фёдар Іванавіч Яраславіч належаў да маскоўскае лініі Рурыкавічаў. Ягоны бацька князь Іван Васільевіч зьбег у Літву ў часе князёўства Васіля Цёмнага ў 1456 г.

Баярын Даніла Іванавіч Ірцішч мог быць або з мясцовых ураджэнцаў, або ня выключана магчымасьць, што ён ці ягоны бацька эміграваў у Літву з Маскоўскае дзяржавы, можа ў сьвіце свайго князя. Значыць, родаачальнік Дастаеўскіх або вялікарус або беларус ... Некаторыя з ягоных патомкаў прынялі каталіцтва і сталі падпісвацца па польску ...

— Некаторыя з роду Дастаеўскіх перайшлі на Украіну і ўступалі ў рады праваслаўнага духавенства. Гэтак дзед пісьменніка Андрэй Дастаеўскі быў пратаерэям у горадзе Браславе Падольскай губэрніі. Ягоны сын Міхал, бацька пісьменніка, асеў у Маскве, дзе прайшоў курс мэдычна-хірургічнай акадэміі.

— Жывучы на Беларусі, Дастаеўскія, відаць, жаніліся з дзяўчатамі беларускага, а мо нат і польскага паходжаньня, наколькі можна судзіць з іхных імёнаў. Бацька пісьменніка быў жанаты з Марыяй Фёдараўнай Гараевай, дачкой маскоўскага купца і блізу пэўна што вялікаруса.

Ад сябе можам дадаць толькі тое, што Лоскі (сам беларус) уважае беларусаў за расейцаў, з чым было-б неразумна згаджацца. Мы не згаджаемся з Лоскім і ў гэтым, што каталіцкія імёны на Беларусі абавязкава азначаюць палякаў. Гэта звычайная памылка гэнага часу і адносінаў у Расеі, што праваслаўны, значыць «расеец», а каталік, значыць, «паляк». І дачка Дастаеўскага ў сваей кнізе беларусаў называе літвінамі дзеля таго, што жывуць у граніцах даўнейшага Вялікага Княства Літоўскага. Дык кім быў нацыянальна пісьменнік Дастаеўскі, няхай дыскутуюць спэцыялісты ад гісторыі!

---

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

ВІТАЕ ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ, ПРЫЯЦЕЛЯЎ І ЎСІХ

СУРОДЗІЧАЎ БЕЛАРУСАЎ

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

ТАКЖА СА

СЬВЯТАМ 25-га САКАВІКА!

КАБ БОГ ДАЎ НАШАМУ НАРОДУ ВОЛЮ І ПОЎНУЮ СВАБОДУ

НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

# З царкоўнага жыцьця

КАЛЯДНЫЯ ДУМКІ: Перад Сьвятам 1971 г. Папа ў прамове да вернікаў гаварыў, што трэба рупіцца, каб Каляды былі прыемным Сьвятам ня толькі кожнаму для сябе, але і для бліжніх, асабліва для церпячых, апушчаных, для вязьняў, хворых, адзінокіх, а нават і для няверуючых! Усе павінны цешыцца з гэтага Сьвята — з прыходу Божага Збавіцеля на сьвет і найбольш тыя, што церпяць фізычна і духова, бо для гэтакіх Ён прыйшоў найперш.

Збавіцель прыйшоў, але... Штогод Папа прамаўляе з бальконy Базылікі Сьвятога Пятра ў Рыме па сьвятой Літургіі да масаў народу, які сабраны на пляцы перад сьвятыняй; а пасля дае багаславенства «Урбі эт Орбі», значыць, «Гораду і Сьвету». Сёлета ў гэтай прамове закрануў думкі, што Хрыстовая Царква знаходзіцца ў падобнай сытуацыі, як Сьвятая Дзева Марыя, якая ня мела людзкога прытулку для Нараджэньня Божага Дзіцятка, бо «ўсе месцы былі занятыя», — аж змушаная была шукаць сабе прыпынку ў стайні за горадам! Падобна і Царква для Божага Слова часта не знаходзіць вольнага месца ў людзкіх душах, у сем'ях і ў грамадзтве. Людзі занятыя дачаснымі справамі не маюць ні часу, ні ахвоты для справаў Божых, калі Сын Божы прыходзіць да чалавека — не забіраць нешта ад яго, але даць яму збаўленьне і вызваленьне ад фальшу, ад няволі грэху, ад няпэўнасьці і вылечыць яго ад духовых хваробаў і сьмерці. Усяго гэта чалавек не знайдзе нідзе і не здабудзе ні навукай, ні стараньнем сваім і ня купіць.

А ў вігілію Калядаў Павал VI меў традыцыйную прамову да кардыналаў, якія сабраліся павіншаваць яго са Сьвяткамі: гаварыў аб падзеях на сьвеце і ў Царкве. Выразіў вялікаю радасьць з Сыноду, які адбыўся перад Калядамі. Многа важнага і карыснага сталася ў Царкве ў выніку Сабору, а цяпер і Сыноду: рэформы ў сьвятой Літургіі, у духоўных сэмінарыях, для адзінства ў хрысьціянстве і ў сьвятых місіях. Аднак былі і цяжкасьці ў мінулым годзе: некаторыя каталікі — сьвецкія і духоўныя — неправідлова тлумачылі пастановы Сабору дый імкнуліся да радыкальных зьменаў у жыцьці Царквы, не зважаючы на старадаўную традыцыю. Наагул уважалі Царкву за людзкую установу, якую можна зьмяняць для выгоды і капрызаў. Гэтым спрычынялася замяшаньне ў душах вернікаў. Але Царква мусіла бараніць праўдаў веры і добрых асягненьняў у мінулых часах, аднак дапушчала вымену паглядаў і думак у братэрскім дыялёгу. Заклікаў да супакою, цярплівасьці і ўзаемнай любові.

Успамінаў Папа і цяперашнія войны дый пагрозы для ўсяго сьвету праз бязупынная збраеньне: вайну ў Ветнаме, у Пакістане, на Блізкім Усходзе і неспакой у Паўн. Ірляндыі. Праўда, труднасьці між вызнаньнямі ў Ірляндыі вялікія, аднак нельга іх рашаць тэрорам, а толькі чэснай размовай, уступкамі і справядлівасьцяй. Выражаў вялікае спачуваньне ахвярам вайны, людзям зусім няпрычасным да вайны, асабліва дзецям, моладзі і інш.

Прычыняецца шмат крыўды і несправядлівасьці ў справах веры, навучаньня рэлігіі, асабліва моладзі і дзяцей — тымі краямі і ўрадамі, якія падпісывалі ўмовы аб свабодзе чалавека і грамадзтва. А тымчасам — пад прэтэкстам роўнасьці — прасьледуецца Царква, вернікі і духавенства.

ФРАНЦЫЯ: Якуб Марытэн, выдатны каталіцкі філязоф маючы 89 гадоў веку, пасьля сьмерці жонкі уступіў у манаскі ордэн так назыв. «Малых Братоў Хрыстовых». Будучы маладым чалавекам ажаніўся з жыдоўкай у 1904 г., а ў 1906 абое ахрысьціліся. Іхным хросным бацькам быў таксама філясоф Блюа, каталіцкі пісьменнік, які перш быў няверучым. Марытэн сваей пісьменніцкай працай вельмі карысна служыў справам Царквы.

*Ларыса Геніюш*

## СА СЬВЯТЫМІ КАЛЯДАМІ ЎСІХ ВАС, ДАРАГІЯ!

*Каляда на стале — ў хаце ціха, ўрачыста:*
*Нарадзілася сяньня Сьвятое Дзіця,*
*Каб жыцьцё азарыць сваім сэрцам прачыстым,*
*Каляда сяньня ў нас і сьвятая Куцьця!*

*Ад усялякіх вятроў зачынілі мы дзьверы*
*І закрылі, завесілі вокны як сьлед.*
*Сяньня наша Куцьця, сяньня наша Вячэра:*
*Палымее у сэрцах нязгашаны сьвет.*

*Прывітаньне мы шлём людзям добрае волі,*
*Пахіляем головы прад Дзецям Сьвятым;*
*Падымаецца ў сьвечках ялінка да столі. —*
*У нас сьвятая Куцьця абычаем старым.*

*Ня з усімі, на жаль, але сэрцам з усімі*
*Будзем сяньня вячэраць за белым сталом:*
*За сваіх дарагіх чарку поўную ўзьнімем —*
*Сэрцы верныя ўздымем назустрач братом.*

*Не забудзем пра Вас, хто ў далёкай краіне;*
*Не забудзем, Браты, хто за стол не пасьпеў: —*
*Будзем вечна чакаць і ўспамін не загіне*
*Пра ніводнага з Вас, хто з пад стрэх адляцеў!*

ВАТЫКАН: Візыта прэзыдэнта Эўрапэйскага парляманту ў Папы. Папа ў прамове выявіў сваё глыбокае зацікаўленьне гэтай Інстытуцыяй, якая імкнецца да аб'яднаньня Эўропы. Жадаў ёй посьпеху ў працы. І факт, што галава гэтай установы прыбыў да Апостальскага Пасаду, сьведчыць, што Эўропа хоча злучыцца на асновах і на грунце хрысьціянскіх прынцыпаў, якія сталіся фундамантам эўрапэйскае культры. Прэзыдэнт падзякаваў Папе за ягонае зразуменьне задачаў эўрапэйскага Парляманту і за маральную падтрымку гэтае установы.

ЛІТВА: Тут тры сьвятары засуджаны ў лягер цяжкой працы за навучаньне рэлігіі дзяцей і моладзі. Вернікі-каталікі падалі на пісьме пратэсты і просьбы аб звальненьні сьвятароў да уладаў у Літве і ў Маскве. Савецкі ўрад робіць усё, каб не дапусьціць рэлігіі да моладзі: вядзе вялікую прапаганду атэізму, але моладзь шукае Бога, паміма прасьледу і націску бязбожнага ўраду. І прасьлед трывае...

АНГЛІЯ — ЭКУМЭНІЗМ: Як ужо пісалася ў № 5 (128) 1971 ў «Божым Шляхам», Мяшаная Камісія Каталіцка-Англіканская дайшла да узгадненьня навукі аб Эўхарыстыі. Апублікаваны Дакумант гэтае Камісіі. Гэты дакумант мае вялікае значэньне для справы веры і адзінства Цэркваў у Вялікай Брытаніі. Апрацавалі Дакумант найбольшыя багасловы каталіцкія і англіканскія, што сапраўды ў сьвятой Літургіі хлеб замяняецца ў Цела, а віно ў Кроў Хрыстовую і гэтак бывае дакананая ахвяра Самога Хрыста за грэшны сьвет. Вернікі таксама ўлучаюцца ў гэтую ахвяру, ня толькі як абсэрватары і сьведкі, але як дзейныя ўчасьнікі, сваімі малітвамі, добрай інтэнцыяй, а яшчэ важней — сьвятым прычысьцем-камуніяй — з карысьцяй духовай для сябе, для всіх найбліжэйшых і за цэлы сьвет.

ЗАХОДНЯЯ ЭЎРОПА: У мінулым годзе Канфэрэнцыі каталіцкага Эпіскапату і Канфэрэнцыі іншых Цэркваў заснавалі супольнае *Студыюм.* Мэта Студыюм будзе: узгодніць досьледы ў справе ўзгадненьня хрысьціянскіх вызнаньняў. Да гэтага Студыюм належала каля 100 розных пратэстанцкіх цэркваў і Царква Праваслаўная. І ў гэтай справе быў на прыватнай аўдыенцыі ў Папы др. Вілліамс, галоўны сакратар Студыюм. Папа сказаў, што Студыюм можа быць вельмі надзейным крокам наперад, калі супраца будзе ўкладацца не на грунце рамантызму, але братэрскага, глыбокага зразуменьня цяжкіх праблемаў, якія трэба рашыць на дарозе да адзінства хрысьціянскае веры.

СУСЬВЕТНАЯ КАТАЛІЦКАЯ ФЭДЭРАЦЫЯ ДЛЯ БІБЛІІ: Арганізацыя паўстала на жаданьне біскупаў. Мэта яе: выдаваць у вялікім накладзе Сьв. Пісьмо на разнаякіх мовах, каб гэтым здаволіць запатрабаваньне на Біблію ў розных краях, асабліва місыйных. Фэдэрацыя супрацуе з пратэстанцкім Біблійным Таварыствам для ўзгадненьня тэксту сьв. Пісьма. Гэта мае вялікае значэньне — ня толькі, каб найбольш пашырацьБіблію, але і для экумэнічнай працы, на што зьвярнуў увагу кардынал Віллебранс, адкрываючы гэтую Фэдэрацыю.

3-ці СУСЬВЕТНЫ СЫНОД БІСКУПАЎ: Адбыўся ў Ватыкане ад 30-га IX да 5-га XI 1971 г. Была гэта найважнейшая падзея ў Каталіцкай Царкве ў мінулым годзе. Сабралася блізка 200 біскупаў, якія прадстаўлялі бадай усе важнейшыя народы сьвету, усе расы, культуры і праблемы. Былі такжа прадстаўнікі законаў — айцы генэралы і сьвецкія, асабліва спэцыялісты, а між імі і дзьве жанчыны. Галоўныя тэмы нарадаў былі дзьве: справа сьвятарства і задача Царквы адносна справядлівасьці на сьвеце. Абедзьве справы вельмі важныя ў Царкве: бяз сьвятарства Царква існаваць ня можа і спаўняць сваей місіі. А без справядлівасьці на сьвеце — няма і любові, дык няма і царкоўнага і Божага жыцьця! Былі выданыя пасьля асобныя два дакументы.

*I. Дакумант аб сьвятарстве*

Сьвятарства перажывае крызыс. Частка сьвятароў перажывае сумніваньне адносна Божага паходжаньня Царквы, а такжа і сьв. Тайнаў дый асабліва Тайны сьвятарства. І ці цяперашняя Царква ёсьць тойсамай, якую заснаваў Хрыстос? Іншыя чуюцца зьнеахвочаныя да душпастырскай працы. Кажуць, што Царква ня ўплывае на цяперашняга чалавека. І сьвятар — кажуць — знайшоўся вонках грамадзтва, дык чуецца непатрэбным. Стуль паўстае жаданьне, каб сьвятар мог жаніцца і жыць пасьвецку між людзьмі. Тады яму будзе лягчэй увайсьці ў сьвецкае асяродзьдзе. Бо сьвятары зьяўляюцца дзецьмі свайго веку. А з другога боку бачыцца, што людзі сьвятароў шукаюць, стараюцца увайсьці ў кантакт і адчуваюць патрэбу сьвятарства.

Сынод з вялікай руплівасьцю і спагадам увайшоў у патрэбы сьвятара дый бачучы вялізарныя яго цяжкасьці, даў адказ, спасылаючыся на навуку Царквы:

1) Царква са сваею аснаўной структурай, з герархічнай уладай і са сьвятымі Тайнамі, значыць, і са сьвятарствам выводзіцца ад Самага Госпада Ісуса Хрыста, БОГА-ЧАЛАВЕКА, — праз Апосталў. І ў-ва ўсіх справах, якія Царква атрымала ад Бога, для свайго існаваньня і для сваей місіі, ніякі чалавек ня можа рабіць істотных зьменаў!

2) Сьвятарства ёсьць дарам Духа Сьвятога, які атрымліваецца праз рукапалажэньне (сьвянчэньне). Дух Сьвяты чыніць чалавека на заўсёды сьвятаром, хаця-б ён перастаў спаўняць свае сьвятарскія абавязкі-функцыі і выціскае

на ягонай душы нясьціральную пячаць, што называецца сьвятарскім характарам.

3) Задача сьвятара: ён робіць тое самае, што рабіў Сам Госпад Ісус Хрыстос, Найвышэйшы Сьвятар, мяноўна: апавядае Божае Слова, адміністрue сьвятыя Тайны, асабліва адпраўляе сьвятую Літургію, адпушчае грахі і праводзіць у набажэнствах. І ў гэтых Тайнах ніякі сьвецкі ня можа сьвятара заступіць, бо толькі яму адна-му даецца ўлада-моц ад Бога. Гэтым ягонае сьвятарства, атрыманае праз рукапалажэньне адрозьніваецца ад сьвятарства агульнага людзей сьвецкіх, якое яны маюць праз сьвяты хрост. Хоць і сьвецкія людзі могуць апавядаць Божае Слова, але ўсе яны — і катэхэты і катэхэткі — могуць пераходзіць ад гэтага да сьвецкіх прафэсіяў, калі сьвятар ёсьць абавязаны ўсьцяж рупіцца разам з біскупам пра Божае Слова, каб ніхто ня быў яго пазбаўлены.

4) І сучасны сьвет, якім ён цяпер ёсьць, патрабуе сьвятарства.

Паміма свайго матар'ялізму, сьвет спрагнены вечнай, Божай праўды і яе шукае, а таксама патрабуе Божай ласкі і помачы і сілы, якую даюць сьвятыя Тайны і якая вызваляе чалавека з грахоў: значыць, сьвет чакае на сьвятароў і вельмі неспакойны, што лік сьвятароў зьмяншаецца. Дык найважнейшая справа ў тым, каб сам сьвятар верыў у свае вартасьці і імі жыў дый каб навучаў народ у мове зразумелай для сучаснага чалавека!

Дык Сынод асабліва прыпамінае сьвятаром іх вялікую годнасьць, задачу і запатрабаваньне ў цкперашнім сьвеце, каб сьвятары разумелі самі, што могуць і павінны даць людзям. Дык тады ня будуць жаліцца, што яны нікому не патрэбныя і што ўжо па Саборы шмат у чым іх заступаюць сьвецкія.

5) ЦЭЛІБАТ. Хоць цэлібат не належыць да сутнасьці сьвятарства, але Сынод пасьвяціў цэлібату асаблівую ўвагу — дзеля публічнай апініі і дзеля самых сьвятароў! І, разважыўшы ўсю справу, Сынод амаль усімі галасамі пастанавіў утрымаць цэлібат у сваей сіле — ў лацінскім абрадзе — бяз зьмены, а практыку жанімства ўва ўсходнім абрадзе пакінуў ненарушаную.

Вось некаторыя рацыі за ўтрыманьнем цэлібату: а) Цэлібат — бязжэнства сьвятара ёсьць Божым Дарам. Бог Сам заклікае чалавека да такога стану і дае яму ласку вытрываньня у гэтым. І няма рацыі сумнявацца ў Божай помачы. б) Бязжэнства дае сьвятару магчымасьць дасканалей аддацца сьвятарскім абавязкам, а сям'я абцяжвае сьвятара лішнімі клапотамі, адрываючы яго ад Божае і непадзельнае службы. І цэлібат ёсьць знакам непадзельнай ягонай любові да Хрыста, каб споўніў заклік Гасподні: «Ідзі за Мною!» в) А цяперашнія ўмовы сьвятарскае працы — бязупынная перамена месца працы, скромныя і няпэўныя сродкі ўтрыманьня, адносіны з боку сьвецкае ўлады, прасьлед рэлігіі і інш. — ўсё гэта вымагае, каб сьвятар быў вольны ад сям'і. г) Царква мае права выбіраць да сьвятарства такіх кандыдатаў, якія могуць больш аддавацца Божай службе і ўстанаўляць умовы сьвятарскай працы. Сынод уважаў, што для Царквы карысьней мець нават менш сьвятароў нежанатых, чым большую іх грамаду з сем'яні. д) Вядучы бязжэннае жыцьцё, сьвятар можа дасканалей сьледаваць за Хрыстом, Найвышэйшым Сьвятаром, Які цалкам пасьвяціў Сябе на службу Богу Айцу. І цэлібат зусім ня дыскрымінуе самога жанімства. У жанімстве людзі сьвецкія могуць дасканала служыць Богу ў сваіх варунках. е) Цэлібат, прыняты для вышэйшай ідэі, дзеля Божага Валадарства, не абмежвае разьвіцьця чалавечай асабовасьці. Доказам гэтага ёсьць сьвятары, што сталіся вялікімі працаўнікамі ў Царкве і ў сьвеце і даходзілі да выдатнае сьвятасьці.

6) Каб сьвятар мог лепш выконваць абавязкі з большай карысьцяй для грамадзтва і каб мог вытрываць у сваім стане і ў цэлібаце, павінен весьці глыбейшае духовае жыцьцё: больш маліцца, быць адданы абавязкам свайго стану і прызваньня, утрымліваць жывейшыя адносіны з сваімі калегамі, жыць у ладзе і любові з сваімі суседзямі-сьвятарамі, мець спэцыяльную працу, паводле сваей здольнасьці і магчымасьці, разьвівацца духова і інтэлектуальна... І асабліва аддавацца працы ахвярнай, як апякун бяднейшых, хворых і патрабуючых міласэрдзя.

*

АФРЫКА: Др. Давід Барэтт, Англіканскі сьвятар, падае лік хрысьціян у Афрыцы: каталікоў 45 мільонаў, пратэстантаў — 29 м. Але магамэтанаў 145 м. Патрэба нямала будаваць хрысьціянскіх сьвятыняў, бо лік хрысьціян вельмі павялічваецца, асабліва каталікоў.

АРГЕНТЫНА: Біскуп у гор. Мэндоза пакінуў арцыбіскупскі палац і пасяліўся ў найбяднейшым квартале, каб быць бліжэй сваіх вернікаў.

НЯМЕЧЧЫНА: Тут тэлевізія падрыхтавала фільм аб «РУХУ ЛЮДЗЕЙ ІСУСА»: гэта датычыць новага узруху паміж маладымі людзьмі ў Злучаных Штатах Амэрыкі і ў Нямеччыне, якія пакідаюць пустое жыцьцё і свае грэшныя прывычкі, а чытаюць Сьвятое Пісьмо і насьледуюць прыклад Самога Хрыста ў жыцьці чыстым і чэсным.

АЎСТРАЛІЯ-МЭЛЬБУРН: Рыхтуецца Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс у лютым г.г. Біскупы пастанавілі па ўсіх каталіцкіх парахвіях уладзіць спэцыяльныя місіі, каб прыгатаваць народ да Кангрэсу.

ІЗРАІЛЬ: На гары Сынай — на падножжы яе — здарыўся ў кляштары Сьв. Кацярыны грозны пажар з няведамай прычыны. Улады дзяржавы Ізраіля далі зараз ратунак самалётамі і ўдалося умяйсцовіць пажар, так што — на шчасьце — ацалела слаўная бібліятэка кляштару, у якой сабраныя манускрыпты вялізарнай гістарычнай вартасьці. А таксама там захаваныя старадаўныя іконы, якія таксама ацалелі.

ПАЎДЗЁННАЯ АМЭРЫКА — ПЭРУ: Прыбыў з дыяцэзіі Арэкіпа арцыбіскуп Лёрэнц у Бэрлін і меў прэлекцыю, на якой сказаў: «У краях Паўдз. Амэрыкі ня ўдасца утрымаць цяперашні парадках. Калі ня дойдзе да радыкальных рэформаў, дык наступіць пераварот а можа нават рэвалюцыя. Бо цяпер народ разрастаецца дый перасяляецца ў гарады. Каталіцкая Царква перадае свае землі на падзел паміж сялянамі. Аднак багатыя ўласьнікі ня йдуць на рэформы, дык народ ня вытрывае ў беднасьці, як дагэтуль...

ТУРЦЫЯ — КАНСТАНТЫНОПАЛЬ: Патрыярх Атэнагорас I запрасіў прадстаўнікоў Праваслаўных Цэркваў на Сынод у гор. Шамбэзі, ў Швайцарыі. Там будуць разважаць справу Сусьветнага Праваслаўнага САБОРУ, які мае адбыцца ў 1974 г. Устаноўлены спэцыяльны Сакратарыят для прыгатаваньня Сабору. На чале Сакратарыяту пастаўлены мітрапаліт Дамаскінос Папандрэу. Мэта будучага Сабору: правесьці рэформы для ажыўленьня дзейнасьці Праваслаўнае Царквы.

## *Пішуць да нас*

ФРАНЦЫЯ: Паважаны і Дарагі Айцец! Даўно ўжо пасылаў Вам на «Божым Шляхам»: цяпер пасьлаю ў лісьце 10 фр. і прышлю на 1972. Шмат маю аб чым пісаць. У «Б. Шляхам» пішаце цікава і карысна з нашае мінуўшчыны і архітэктуры, аб мінулым нашых продкаў і т. д. Дык чаму-ж ніхто ня піша ў рэлігійных справах, што каталіцкі сьвятар Чарняўскі прыяжджаў з Беларусі? Дык Рымскі Папа хацеў яго менаваць біскупам, але польскі шавініст, Кардынал Вышынскі, супрацівіўся гэтай Ватыканскай намінацыі! Дык вось няма Беларускага біскупа лацінскага абраду ані на Бацькаўшчыне, але нямаш яго і на эміграцыі. Праўда, маем Біскупа Часлава Сіповіча, Апякуна духоўнага эміграцыі. Але ў нас адна бяда, што няма ніводнай беларускай парахвіі каталіцкай; а нашыя каталіцкія сьвятары пазашываліся ў чужыя асяродкі, дык і пасуць чужыя авечкі, але аб сваіх беларускіх авечках ня думаюць, або і зусім аб іх забыліся! І аб гэтым беларуская прэса ня піша.

Калі палякі дамагаюцца парадку на своіх «землях одзысканых», дык гэта іхнія землі; але чаму палякі не даюць беларусам, якія цяпер пад польскай акупацыяй, як Беласточчына, Аўгустоўшчына і ў другіх паветах беларускіх сьвятароў? Але там польскі шовіністычны клер... І беларусаў не бачыць арцыбіскуп Казаролі, як езьдзіць у Маскву і ў Варшаву. Ватыкан ужо прадаваў нас маскалём і палякам і цяпер таксама няведама, што будзе, бо італьянцам усёроўна, каму аддадуць беларусаў і украінцаў — ізноў палякам ці маскалям, чырвоным ці белым!

Польская газэта «Вядомосьці» пісала, што на Беларусі 80 сьвятароў, толькі няведама, ці яны беларусы ці польскія сьвятары? І палянізуюць беларускія авечкі. Бо гэта іхняя заслуга, што беларусы не маюць сваей герархіі.

Не баяцца гэтыя ляхі ні Бога і ня выконваюць Божае волі, што Хрыстос сказаў сваім апосталам: «Ідзіце і навучайце ўсе народы», каб вучылі слова Божага ў іхных мовах; бо то і праўда, — хто моліцца ў сваей мове, той двойчы моліцца. А нам і гэта адабрана, каб мы ня мелі магчымасьці. Няма зусім беларускіх сьвятароў, або вельмі мала, хоць-бы цяпер у Францыі. Ёсьць рэктар айцец Гарошка, але ён ня можа ўсяго абняць, хоць ахвярны працаўнік. Сам ён у Ватыканскім радыё, а гэта вельмі карысна, бо на Бацькаўшчыне няма беларускага Божага слова, дык хоць праз радыё пачуе наш гаротны беларус. Дык трэба было-б памагчы і узмацніць беларускія перадачы ў Ватыкане.

Мала сьвятароў беларусаў! У Амэрыцы айцец Чарняўскі і цяпер паехаў айцец Татарыновіч. А ў Англіі, здаецца, ёсьць найбольш, бо як не памыляюся 5 сьвятароў беларускіх, марыянаў. Хоць гэта ня многа, але і Хрыстос ня меў многа апосталаў, толькі 12 і як дыхнуў Духа Сьвятога, дык разаслаў у ва ўсе канцы, дык у 1971 стала многа апосталаў. Толькі на жаль у нашым шматпакутным народзе мала асталося і ў гэтым наш занепад і рэлігійны, і духовы і палітычны! Дык дай, Ўсёмагутны Божа, і нашаму пакутнаму народу беларускаму сваіх пастыраў, тады будуць славіць Цябе, Божа, як Беларусь доўгая і шырокая ! Славіць Цябе, Божа, шчыра і прыгожа!

Дык вось, Паважаны Айцец Гэрмановіч, можа я пішу многа і памыляюся, але гэта пішу толькі Вам. Але як я чытаю вашыя артыкулы і вашу кніжку «Сібір—Масква», дык бачу, што Вы сьмелы і адважны слуга Божы і шчыры беларускі патрыёт і многа пацярпелі для Бога і бе-

ларускага народу. І я ўпэўнены, што Вы і сьмела будзеце бараніць беларускую рэлігійную справу. А трэба пісаць у «Божым Шляхам» і пратэставаць і добра абсэрвавац ватыканскія дачыненьні да Масквы і Варшавы, у адносінах да беларусаў. Так як робяць украінскія біскупы. Як казаў украінскі Кардынал Сьліпый: «З Ватыканам не парываем сувязі, але баронім нашыя украінскія справы, каб не прадалі 6 мільёнаў украінскіх уніятаў!» Так і трэба. Трэба, каб і нашыя сьвятары і біскупы також баранілі ўсюды і ў прэсе пратэставалі. Бо наш народ пратэставаць ня можа; а эміграцыя можа, каб толькі хацела; а хацець дык трэба і гэта наш сьвяты абавязак! Бараніць сябе і ўсё нашае — нацыянальнае і рэлігійнае. Як пісаў Янка Купала: «Даволі служыць і пакарацца — за крыўду прыблудаў панамі іх зваць!»

Дык Паважаны Айцец Гэрмановіч, прашу — прабачце, што так многа напісаў і гэта асабіста да Вас! Бо аб гэтым усім беларусы многа гамоняць аб беларускім маўчаньні. І нашыя сьвятары нідзе ня пратэстуюць супраць польска-ватыканска-маскоўскіх махінацыяў у дачыненьні да беларусаў каталікоў.

Шлю Вам, Паважаны Айцец, шчырыя пажаданьні ад Бога — здароўля і ўсяго найлепшага!

З павагай і пашанай да Вас

*Н. Н.*

(Заўвага: Прозьвішча і адрас ведамыя Рэдакцыі).

*

АЎСТРАЛІЯ Вестка з Беларусі праз Аўстралію): Сьпешна перасылаю ведамку аб сьмерці сьвятара Язэпа ГАЙЛЕВІЧА з Бальбінова ў Латвіі. Вось што піша ягоны брат: «Нядаўна памёр брат, сьвятар Язэп 18 — XI — 1971 — неспадзявана. Ніколі не жаліўся на жывот і не рабіў праверкі — аж пачуўся хворы, паехаў у Краслаўя. Там, як зрабілі прасьвятленьне жывата і кішок, ён згадзіўся на апэрацыю, бо ўжо далей нельга было адкладваць. Як ведама, у Краслаўі шпіталь раённы. 16/XI — апэрацыя, а 18/XI а гадз. 15-ай памёр, маючы 78 гадоў. Вялікая нам шкода яго. Толькі ў прошлым годзе пабудаваў дом недалёка касьцёла ў Бальбінове, адправіў свой юбілей 50 гадоў сьвятарства, а цяпер пакінуў усё!» Чэсьць ягонай памяці! быў добры патрыёт і таленты яму дадзеныя выкарыстаў, як належыць».

Расказваюць аб ім: быў чалавек у сужыцьці вельмі сымпатычны, як сусед, паслужлівы, ласкавы і дабрадзейны. Як прапаведнік, ахвотна ўсюды гаварыў казаньні пабеларуску дый так даступна даваў выясьненьні Божых праўдаў, што людзі з захапленьнем яго слухалі! Нават калі быў змушаны гаварыць па польску, дык ягоная польшчына была зьбеларушчаная, бо заўсёды імкнуўся да таго, каб людзі яго зразумелі і прынялі да сэрца Божае слова. Наагул да Гайлевіча трэба датасаваць словы Хрыста, якія сказаў да апостала Нафанайлы: «Вось Ізраэлянін, у которым няма хітрыні» (Ян 1, 47).

Расказвала нам сп-ня А., якая калісьці вучылася ў беларускай гімназіі ў Дзьвінску ў Латвіі, што ў 1925, 26 і 27 годзе сьвятар Я. Гайлевіч быў настаўнікам Божага Закону ў іхняй школе: спэцыяльна прыязджаў на лекцыі, а праводзіў іх так умела, даступна і сымпатычна, што вучні яго заўсёды ахвотна слухалі, ставілі пытаньні і даставалі адказы поўныя зьместу, павагі і далікатнасьці. Наагул а. Гайлевіч заслужыў на успамін як «Добры Пастыр»!

*а. Я. Г.*

## *З беларускага жыцьця*

### КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У сераду 24 лістапада ў Лёндане Др. А. Б. МакМільлін з Лёнданскага унівэрсытэту прачытаў даклад на тэму «Альгерд Абуховіч», пачаўшы такім чынам шосты курс беларусаведы, ладжаны Англа-беларускім таварыствам. У аўторак 14 сьнежня Сп. Дж. Дынглей з Рэдынгскага унівэрсытэту прачытаў даклад на тэму «Славянская граматыка Яна Ужэвіча (1643—45)».

### КАНФЭРЭНЦЫЯ ПРА ПАЧАТКІ КНІГАДРУКАВАНЬНЯ

Школа славянскіх і ўсходнеэўрапэйскіх студыяў Лёнданскага унівэрсытІту ладзіла 3-5 сьнежня канфэрэнцыю на тэму «Пачаткі кнігадрукаваньня ва ўсходняй Эўропе». Дакладчыкамі на канфэрэнцыі былі граф. Р. Оты («Глаголічныя інкунабулы»). Д. Дэлетант («Пачаткі румынскага кнігадрукаваньня»), Др. В. Пінто («Пачаткі баўгарскага кнігадрукаваньня»), Др. Г. Кушынг («Загадка Гэса ў сувязі з пачаткамі вугорскага кнігадрукаваньня»), Р. Клёг («Грэцкае кнігадрукаваньне ў Турэцкай імпэрыі і ў дыяспары»), Др. М. Данілевіч («Польскае кнігадрукаваньне»), П. Валюа («Старадрукі ў Школе славянскіх студыяў у Лёндане»), Э. П. Тырэль («Славянскія старадрукі ў Кэмбрыджы») і а. А. Надсон («Новае пра друкарскую дзейнасьць Скарыны ў Вільні»).

### ПОСЬПЕХІ БЕЛАРУСКІХ ВУЧНЯЎ

Вучань Школы сьв. Кірылы Тураўскага ў Лёндане, Віктар Міхалюк, здаў пачатковы экзамін з беларускай мовы ў Інстытуце Лінгвістаў. Другі вучань, Марк Саўка-Міхальскі, здаў экзамін з беларускай мовы на дыплём другой ступені. Марк канчае школу ў гэтым годзе і жадае паступіць на ўнівэрсытэт на аддзел славістыкі.

### МІЖНАРОДНЫ КАНЦЭРТ

У нядзелю 5 сьнежня адбыўся ў Лёндане міжнародны канцэрт з удзелам хораў і танцавальных груп народаў усходняй Эўропы (беларусы, украінцы, чэхі, літоўцы, латышы, эстонцы, сэрбы, румыны, грузіны, армэнцы, вугорцы, палякі, альбанцы і баўгары). Ад беларусаў выступіла музыкальная група (Марк Саўка-Міхальскі і Віктар Тур — гітары, Міхась Цьвірка — трубка) з сваей уласнай — сучаснай — аранжыроўкай беларускіх народных танцаў.

СЬВ. ПАМ. а. ВІТАЛІС ХАМЁНАК памёр 24/XII. 1971 у м. Скужэц ля Седлец; але пахаваны на магільніку Вавжышэв—ВАРШАВА, дзе Марыяны маюць свой квартал і дзе ўжо пахаваны а. Язэп Дашута.



Айца Віталіса перавазьлі са Скурца пасьля сьмерці, бо такая была ягоная воля перад сьмерцяй. І фактычна Варшава была месцам ссылкі айца Віталіса, там ён правёў большую частку свайго выгнаньня з Друі і самы найгоршы час вайны і паўстаньня.

Пару гадоў таму мы ўжо давалі ўспаміны з жыцьця а. Віталіса, але аб апошнім часе перад сьмерцяй і аб пахаваньні пададзём пазьней, як атрымаем дакладныя весткі ад прысутных ягоных прыяцеляў.

# Рай — першыя людзі

ДАЛОЎ З РАЮ!

*Адаму й Еве тут-жа, зараз*
*Была адмераная кара:*
*Яны згубілі шчасьце гэтак —*
*Сваё і ўсенькіх сваіх дзетак!*

*Пры разьвітаньні — на астатак —*
*Бог даў адзежку на пачатак,*
*Каб не брадзілі галышамі —*
*Бясстыдна, брыдка — вольны самі.*

*На падабенства іх натуры*
*Адзеў іх у зьвярыны скуры.*

*За бунт, за грэшну самаволю*
*Іх выгнаў Бог у чыста поле —*
*Хлеб здабываць у горкім поце —*
*Так зьдзерці сілу пры рабоце. —*

*Праклён той Божы зараз збыўся:*
*Бо рай адразу-ж азьвярыўся:*
*Жывёла гэтак ашалела, —*
*Іх на кускі парваць хацела!*

*Ратунак толькі быў адзіны,*
*Што два цудоўны хэрубіны*
*З агністымі ў руках мячамі*
*Далі ахову тымчасамі.*

*Яна і ён ізаляваны —*
*За грэх адзін арыштаваны —*
*І з раю, дзе былі панамі*
*І поўнымі гаспадарамі, —*
*Цяпер пасьпешна уцякалі, —*
*Жыцьцё ад сьмерці ратавалі!..*

*Прыбеглі так да райскай брамы —*
*Было якраз у поўдзень самы:*
*Няшчасныя, хвілінку мелі,*
*Дык аглянуліс — паглядзелі*
*І ў той-жа момант ацанілі,*
*Што рай, што шчасьце — ўсё згубілі! —*

*Ніяк ня клеілась гаворка, —*
*Стаяць за брамай — плачуць горка, —*
*Аж брама з громам зачынілась*
*І гэтак шчыльна заскляпілась —*
*У векавечну перашкоду —*
*Ані праезду, ні праходу!*

*І вышлі ў шчырую пустыню,*
*Дзе ўбачылі пяскі й цярніну,*
*Кусты дзе-недзе жорсткіх жмыхаў,*
*Што чорт на злосьць людзям набрыхаў!*

*Прайшлі кусочак без дарогі —*
*Аж акрывавілі ўжо ногі! —*

*«Турысты» дужа непрактычны —*
*Іх ножкі з раю — няпрывычны...*
*І дзе падзецца, агарнуцца?*
*Казала Ева: — Лепш вярнуцца! —*
*Што будзем есьці і што глумаць? —*

*АДАМ:*

*— Магла ты перш аб гэтым думаць!... —*
*Тады ты ясны розум мела;*
*А плод той рвала — яблык ела. —*

*

*ЕВА:*

*— Калі табе Бог жонку даў,*
*Дык ты чаму ня пільнаваў? —*

*АДАМ: Ой, пільнаваў я — не дагледзеў —*
*Сьлядзіў уважна — не дасьледзіў!*

*ЕВА: — Каб я аб гэтым перш пазнала,*
*З зьмяём праклятым не шаптала-б! —*

*АДАМ: — Ну, а стагнаць цяпер нам позна,*
*Калі прад намі прышласьць грозна! —*

*ЕВА: — Калі тут церні скрозь растуць,*
*Дык як-жа людзі тут жывуць? —*

*АДАМ: — Ці-ж ты таго яшчэ ня знаеш,*
*Што род людзкі ты пачынаеш? —*

*ЕВА: — З табой аб гэтым гаманіла,*
*А як грашыла,*
*Усё забыла...—*

*АДАМ: — Мы на пачатку заблудзілі:*
*Па Божым Шляху не хадзілі. —*
*Затое кроўю шлях свой значым. —*
*Што-ж будзе далей? Ну, пабачым. —*

*

ПЕРШЫЯ ДНІ — СТРАХ І ГОРА

*«Ах, як без раю трудна жыць!»*
*Сакрэтна Ева дый нямала,*
*Гаротна, цяжка уздыхала. —*
*Яны ўжо толькі маглі сьніць. —*
*На шчасьце трапілі у лес:*
*Там чалавек на дрэва ўзьлез.*

*

*Як выйшлі з раю Адам з Евай —*
*Кароль з прагнанай каралевай,*
*Дык доўга плакалі у смуце*
*За грэх дурны ў цяжкой пакуце.*

*Натура ім не паддавалась,*
*А больш і горш на іх злавалась:*
*Ім дакучаў і дождж і холад,*
*А ў недастатку люты голад.*

*А ўсе зьвяры, як па камандзе —*
*То ў адзіночку, а то ў бандзе —*
*Раўлі дый вылі ці брахалі —*
*Аж страх на Еву наганялі!*

*А зьмеі, гадзіны, вужакі*
*І гады, паўзуны ўсялякі*
*Так збрыдлі беднай матцы-Еве,*
*Што толькі спаць магла на дрэве!*

*Зьвяры баяліся Адама:*
*Яго лічылі сваім панам, —*
*Адны з пашанай уступалі,*
*Другія ў страху уцякалі.*

*А зайчык наш, як толькі мог,*
*Так уцякаў з усенькіх ног!*
*Леў страшна роў, тыгр марматаў,*
*Нагамі зубр зямлю капаў.*

*

*Адам і Ева пасварылісь:*
*На дуб высокі усчапілісь,*
*А там была ўжо матка-Ева*
*Сапраўдна сьвету каралева!*

*Зьвяроў тых масы — проста страх!*
*Дык, каб ня згінуць у зубах,*
*Ратунку трэ было шукаць —*
*На дрэвах спаць...*

*Адам у духу мацаваўся*
*І да жыцьця нейк тасаваўся:*
*Брадзіў з дубінай-булавой —*
*Гатоў ісьці хоць з кім у бой!*

*Прайшоў так дзень і ночкі дзьве:*
*Шукалі ежы у траве. —*
*Аднак, як практыкі ня мелі,*
*Дык каштавалі кожна зеле.*
*Дый грызьлі з гора і з нуды*
*Лясныя фрукты дый плады.*

*А хто чытае, кожны знае,*
*Што жыць у джунглях — то ня ў раі!*
*Няраз здараўся час нягодны,*
*Што спаць ішлі напоўгалодны.*

*Тады Адам ёй кажа: — Ева!*
*Мая ты паня — каралева:*
*Рыхтуй ты нам адна ўсю ежу,*
*Ну, і абутак дый адзежу.*
*А я — ў рабоце самай шпаркай —*
*Займуся новай гаспадаркай.*

*Такі, як бачыш, новы «рай»,*
*Хоць сядзь дый плач ці памірай!*
*А хлеб ня валіцца нам з неба,*
*Дык рыхтаваць дзень цэлы трэба!*

*— Тут, што маё, то і тваё,*
*Дык кожны сам рабі сваё;*
*А я пачну уладжваць хату,*

*Няхай — не райску, не багату,*
*Дый не пасуе каралеве,*
*Як той там малпе, спаць на дрэве!*

*

*Пазнаў тут кожны — не на жарты,*
*Што галава, што рукі варты:*
*Работы так хапала ім —*
*Усім... дваім!*

*Пачаў ён строіць аж дзьве хаты:*
*Адну на дубе расахатым,*
*Другую пад тым самым дубам, —*
*Тут спальню, склад і кухню з клюбам.*

*Каб ад зьвяроў адгарадзіцца,*
*Ці ў небасьпецы бараніцца,*
*Аблюбаваў адзін узгорак,*
*Дзе меў гарод і панадворак.*

*Парадак, праўда, быў дзікі,*
*Хоць мелі аж па дзьве рукі!*
*Дый інструмэнтаў, мала-многа,*
*Каменны нож і больш нічога!*

*Вады бывала ў лесе досыць —*
*А ў што наліць, ці ў чым прыносіць?*
*І ні ў патрэбе, ні ў ядзе —*
*Агню ніякага, нідзе!*
*Што мелі добрае, благое,*
*Дык елі, грызлі ўсё сырое.*

*На шчасьце, край быў цёплы, мілы.*
*Здароўя, розуму і сілы*
*Хапала ім, каб жыць, як трэба*
*І здабываць кавалак хлеба.*

## САБАКІ І ЗЬМЕЙ

*Зьвяроў у раі было многа:*
*І там прыязна — з волі Бога —*
*Жылі з людзьмі у мілай згодзе,*
*Або служылі пры нагодзе.*

*Пасьля, як людзі грэх той мелі,*
*Зьвяры страшэнна падзічэлі,*
*А толькі верныя сабакі*
*Прайшлі праз пробы разнаякі.*

*Як хэрубіны із мячамі*
*Людзей за браму з раю гналі,*
*Дык два сабакі тады самі*
*Між хэрубінаў прашмыгалі:*
*З людзьмі злучыўшы сваю драму,*
*Стралой прарваліся праз браму!*

*А, як Адам із Евай плакаў*
*І як блудзілі па пустыні —*
*З рукамі голымі, пустымі,*
*Адам хоць гладзіў тых сабакаў.*

*Як будаваў Адам дзьве хаты,*
*Дык у сваім вялізным смутку,*
*Такі быў мудры і багаты,*
*Што і сабакам склеціў будку.*

*Адам знайшоў зубра-калеку,*
*Які зламаў сабе нагу:*
*Ляжаў галодны на лугу*
*І там чакаў сканчэньня веку.*

*Сабакі й людзі, як умелі,*
*Зубра кармілі, сьцераглі;*
*Пасьля забілі, як маглі,*
*І кроў пілі і мяса елі.*

*Адам казаў: — Ах, дзякуй Богу,*
*Што даў сабакаў на падмогу!*
*У трудным, жорсткім панаваньні*
*Са мной бягуць на паляваньне.*

*

*А зьмей у раі апазнаны*
*Ад хэрубінаў дастаў раны:*
*Іх меч яму скароціў рост —*
*Згубіў зьмей хітрасьць, страціў хвост.*

*Да райскай брамы як далез,*
*Яго стуль выгналі далоў. —*
*Ён нейк прабраўся аж у лес*
*І з Евай там спаткаўся зноў.*

*Але-ж ён іншы быў цяпер:*
*Няўдалы, хворы, подлы зьвер; —*
*Ня мог прамовіць ані слова*
*І стаў замораным нямовай.*

*Усімі кінуты ганебна —*
*Жывёла чэрцям непатрэбна —*
*Аж Ева адвярнулась з жахам*
*Прыбегла да Адама з страхам...*

*Адразу ўсё замэльдавала. —*
*Адам сказаў: — Таго мне мала:*
*Няма чаго тут забаўляцца —*
*З ім мушу моцна сквітавацца;*

*Схапіў дубіну ў рукі, сьціснуў*
*І на сабак як толькі сьвіснуў,*
*Пабеглі ўпоперак праз лес —*
*Якраз зьмяю наперарэз, —*
*А там сустрэліся з сабой*
*І пачалі апошні бой!...*

*Як зьмей хацеў схавацца ў яму,*
*Сабакі зблыгалі праграму:*
*Раптоўна ззаду як схапілі,*
*Уцеч ніяк не дапусьцілі!*

*Скруціўся зьмей у непазнаку*
*І ўжо за хвост схапіў сабаку,*

*Аднак Адам і раз — і два —*
*Як гвазнуў, зьвісла галава! —*
*Аж зьмей начыста абамлеў*
*І ў момант тут і спруцянеў! —*

*Так Ева збрыдзіла яго,*
*Як ворага навек свайго,*
*Бо ён самых іх збаламуціў*
*І род людзкі увесь зачмуціў!*

*Было-ж цяпер вяліка сьвята*
*І радасьць поўная, багата! —*
*За гэту слаўну перамогу*
*Падзякі людзі склалі Богу.*

*Цяпер ад першай тэй навукі*
*Жанчыны не бяруць у рукі*
*Вужоў, ні яшчарак, ні жабаў,*
*Ніякіх гадаў, ані крабаў. —*

*Аж лезуць на сталы вышэй,*
*Як уцякаюць ад мышэй!*

*А чорт зьвяроў натуру знае*
*І постаць страшную прыймае —*
*Для сваіх плянаў ці законаў —*
*Зьмяёў, казлоў, або драконаў.*

*Людзей ён хоча мець паслушных*
*І ловіць ў сетку маладушных:*
*Усё найлепша абяцае —*
*Дае ім тое, што сам мае.*

*Ён страціў неба, як на дзіва,*
*А выбраў пекла абрыдліва. —*
*А ці-ж мы гэтага ня знаем? —*
*Ён пекла называе раем...*

Лёндан. 31 — I — 1971.
6 — I — 1972.

---

## ПРЫСЛОЎІ І ПРЫМАЎКІ

Ад зямлі адарваўся і да неба не дастаўся.
Нічога нічым не адбудзеш.
Аддай рукамі дый хадзі нагамі.
Аднаму і ў кашы няспорна.
Каму акалець, той і ў Пятроўку зьмерзьне.
Убіла-б баба лося, каб удалося.
Балота бяз чорта, а чорт без балота ня будзе.
На бяду то й чорт ня сьпіць.
Скоры сам набяжыць, а на ціхога Бог нанясе.
Ня знаем, хто з нас стаіць з берагу.
Бог дарогаю, а чорт цалiком.
Пяць пальцаў на руцэ, а кожны баліць аднака.
Бывала, што і варона кукавала, а цяпер і зязюля ня хоча.
Кандрат ня вінават, а вінавата хата, што ўпусьціла Кандрата.
Шукаючы пірага, хлеб загубіў.
Покуль хвалько нахваліцца, то будзька набудзецца.
Дай, Божа, нашаму цяляці ваўка за хвост паймаці.
Пад цёмным лесам сустрэўся чорт з бесам.

*

## «ПРАЎДА» Ў МАСКВЕ

(фэльетон)

Ці ведама вам, што «Праўда» ёсьць у Маскве? Яе там звечара укладаюць, набіраюць і б'юць: а серад ночы вяжуць, адпраўляюць на самалёты, каб разьляцелася па ўсім Саюзе. Мала таго: «Праўду» распіхаюць па цэлым сьвеце!

А скуль яна бярэцца? О, яна выплывае з сэрца першага Сакратара, (ня з душы ягонай, бо атэісты душы не маюць); а Сакратар ёсьць наступнікам цароў, асабліва Івана Грознага і Пятра Вялікага, дый наступнікам Маркса-Леніна-Сталіна. А гэты царскі і сакратарскі дух перайшоў да апошняга Сакратара і гэтым духам тхне маскоўская, самая «чыстая Праўда». І ў Саюзе яна адзіная, бо адкідаецца праўда Хрыстовая і агульна-людзкая, дык астаецца адна «маскоўская», якая пішацца вялікай літарай.

Адраньня там «Праўду» шукаюць і купляюць: плацяць па некалькі капеек і цэлы дзень ёй жывуць. Але падвечар яе адкідаюць у сьметнік ці тракурваюць, аднак гэта — нічога! Бо яна, як птушка Фэнікс, адраджаецца ўночы з попелу, бо бяз «Праўды» ў Саюзе жыцьцё было-б сабачае!

І маскоўская «Праўда» ня зьменяецца, пакуль жыве Сакратар. Як яго сапхне другі, тады дух цара Грознага і Маркса-Леніна перасkaквае на другога, а «Праўда» тхне новым духам і гора таму чалавеку, які будзе галасіць учарашнюю праўду — адыйшоўшага Сакратара! Яго палічаць зраднікам, якому месца ў Сібіры ці ў вар'яцкім доме... І такі парадак стаіць у Саюзе ад 1917 году — такі моцны, як сам Савецкі Саюз, пакуль... ня зваліцца! І іхняя «Праўда» астаецца тая самая, што была за Леніна, але толькі ў тэорыі, бо на практыцы яе не пазналі-б ні Маркс, ні Ленін.

## СУЧАСНЫЯ ЖАРТЫ

Кажуць, што на Зьезьдзе партыі ў Маскве адзін дэлегат падаў праект зьмяніць герб «Серп-Молат», бо ўжо малодшыя ня ведаюць, да чаго служыў у жыцьці людзей «серп»; а і «молат» выходзіць з практыкі, бо ўсё робіцца машынамі. Дык трэба знайсьці новыя эмблемы на дзяржаўны герб Савецкага Саюзу. Дык вось пачалі шукаць іншых знакаў на новы герб, каб паставіць нешта найбольш прыемнае і найбольш практычнае, — аж у канцы затрымаліся на тым, што самае прыемнае будзе «бутэлька водкі», а найбольш патрэбнае ў Саюзе — «ключ». I вось водку прызналі адразу ўсімі галасамі, але ключ навёў сумненьне; аднак-жа яго таксама прынялі аднагалосна, бо спэцыялісты даказалі, што ключ у Саюзе — самы неабходны прадмет, асабліва дзеля «заключонных», якія ў Саюзе заўсёды даходзяць да вялікіх мільёнаў. I гэтак быў прыняты новы герб Саюзу — «Бутэлька» і «Ключ», на месца царскага двугаловага «Арла» і ленінскага «Серпа-Молата». Праекціроўшчыку ухвалілі даць ордэн Леніна I-ай клясы...

*

ІНСТРУКЦЫЯ ГІТЛЕРА З 1939, 22. VIII

«Адправа»: «Нашая сіла ў шыбкасьці і зьверскасьці. Джынгіз Хан зьнішчыў сьведама, з лёгкім сэрцам мільёны жанчын і дзяцей. А гісторыя бачыць у ім толькі вялікага будаўніка дзяржавы...»

УВАГА: У концлягерах зьнішчана 11 мільёнаў чалавек!

ЗАГУБА СЛАВЯН: Загад з 25. XI. 1939. Гэты плян др. Карль Гляўбэрг удасканаліў. Ён тады паведаміў, што ягоная мэтода ўжо блізка гатова: будзе магчыма ў адным пункце стэрылізазаць 1.000 асобаў у дзень.

---

## ЭМІГРАНЦКАЯ БАЛАДА

(песьня)

*Эмігранты, Эмігранты!*
*Вы на Захадзе як франты,*
*А жыцьцё тут — не такое:*
*Ванна, кухня, тры пакоі;*
*А ў пакоях — люстраў пяць —*
*Паглядаць дый танцаваць!*

*Тут ці бедны, ці багаты —*
*Дзеці гулямі заняты:*
*На стале сартоў сем хлеба,*
*Мяса болей чым патрэба:*
*Ім гады як падыйшлі,*
*Дык бацькоў перарасьлі!*

*Растуць дзеці ў вольнай волі:*
*Вучаць, кормяць іх у школе.*
*Бацькі з імі (з балванамі),*
*Па «бруклінску» брэшуць самі.*
*Дома — бах — на дываны —*
*Перад тэле, як паны!...*

*Мы на Ўсходзе жылі цесна:*
*Хата — цюпка, елі прэсна.*
*Пралі — ткалі сабе самі,*
*Адзяваліся дзядамі.*
*Куры й людзі — ў хаце ўсе*
*Дый авечкі ў катусе!*

*Пастушком быў я на Ўсходзе:*
*Брадзіў босы ў тэй прыгодзе.*
*З вясны ў восень — аж да сьнегу*
*За чужой скацінкай бегаў.*
*А зімой, хоць добра мерз,*
*Гадкі тры у школку лез.*

*О, таго ніхто ня бачыў,*
*Як жыцьцё цякло лядача!*
*Людзі й быдла — ўсё худое*
*І гаротнае й ліхое...*
*Прад вясной, у час глухі,*
*Трываў доўга пост сухі.*

*Беларусы — эмігранты,*
*Вы — ня простыя, вы — франты:*
*А як дзеці зьлезуць з шыі,*
*Зараз стануць вам чужыя.*
*Праляціць так год-за-год —*
*Зблудзяць у чужы народ.*

*Сваей мовы ня вучылі —*
*Свой язык для іх круцілі:*
*Ну, цяпер пагардай плацяць —*
*Так бацькі навек іх трацяць. —*
*Сын — дачка, як хто падрос,*
*Вам пакінуў «доўгі нос»!...*

# КАМУНІКАТ

## БЕЛАРУСКАЙ СЭКЦЫІ ВАТЫКАНСКАГА РАДЫЯ

Шмат хто пры розных нагодах пытаецца, ці магчыма чуць у Заходняй Эўропе беларускія перадачы Ватыканскага Радыё ў Рыме. Вось-жа, як паведамляе дырэкцыя Беларускае Сэкцыі тымчасам беларускія аўдыцыі перадаюцца толькі на кароткіх хвалях і накіраваны толькі на Беларусь. Праз адбіцьцё ў ёнасфэрах іх яшчэ магчыма пачуць у некаторых зонах Амэрыкі і Аўстраліі пры адпаведных атмосфэрычных умовах. Дзеля гэтага падаём для зацікаўленых час і хвалі тых перадачаў.

Цяпер беларускія перадачы адбываюцца ў нядзелю, панядзелак, сераду і пятніцу а гадзіне 19,05 сярэдня-эўрапэйскага часу на кароткіх хвалях: 25,55 м., 31,15 м. і 41,92 м. — І ў нядзелю раніцай а гадзіне 7,15 сярэдня-эўрапэйскага часу на кароткіх хвалях: 25,55 м. і 31,10 м.

Цяпер кіраўніцтва Беларускае Сэкцыі стараецца атрымаць перадачы такжа на сярэдніх хвалях, якія было-б магчыма чуць усюды. Але гэтыя стараньні былі-б больш дзейнымі, калі-б беларусы зьвярталіся беспасрэдна ў гэтай справе да дырэкцыі Радыя. Адрас:

Radio Vaticana, Programma Bielorusso,
Cita del Vaticano, ROMA, ITALIA

---

## ЗЬМЕСТ:



---

Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14